Беларуская газета

Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!... Я.КУПАЛА

# Сумежжа



№5-6(81) Чэрвень-Ліпень 1998 г.



## Колькі год Паставам?

Вядомымі датамі заснавання Пастаў лічацца 1522, 1414 і 1409 гг. Апошнія дзве даты фігуравалі і на канферэнцыі "Пастаўшчына і яе гісторыя" (сакавік 1998 г.). Згадваўся і прывілей вялікага князя Вітаўта 1414 г., які захоўваўся "ў дубовай скрыні ў Смаргоні". Дакладчык не цытаваў вытрымак з таго дакумента і засталося незразумелым, ці застаўся ён у складальнікаў хронікі Памяці. Калі не - рыхтуйце грошы, бо магу прапанаваць яго тэкст на мове арыгіналу (польскай і лацінскай). Пераклад падае, што прывілей "падцвяржае Зяновію братошычу (Браташэвічу) спадчынную маёмасць% Мыш, чардлёны, Вішнеў на возеры Спяхла, Чачэлічы з людзьмі на возеры Нарач у павеце Мядзельскім і Маркоўскім, а таксама вёскі і азёры: Паставы, Мапаў, Баравічы ў межах да рэк Бычыца, Недзяліца, Кіравіца, Лусіца, Альбеця, Дзісна, Беразвіца да меж полацкіх і маёнтка, дадзеных яму Уладыславам Ягайлай, паміж глыбокім і Паповічамі (цяпер вёска Папоўцы ў Пастаўскім раёне).

Аднак Паставы - не першапачатковая назва паселішча. Спачатку яно называлася Пасаднік. А ўзрост пасялення адлічваецца, як вядома, не з года змянення яго назвы, а з даты яго заснавання ці першага прыгадвання ў гістарычных крыніцах. Не лічыў жа ніхто, скажам, пачаткам датаванай гісторыі Ленінграду - час змянення яго назвы ў дваццатым стагоддзі, а ў 1703 г. ён закладваўся як Пецярбург. І "пасадскі" перыяд Пастаў .

налічвае, па меншай меры, 418 гадоў. Гэта пацвяржаецца грунтоўнай працай гісторыка С.Д.Фёдарава "Поселения Северо-Западного Края Великого княжества Литовского", выдадзенай на пачатку дваццатага стагоддзя ў С.-Пецярбургу, дзе ён піша: "...В 25 верстах от озера Мездолье находится поселение 5 домов наземное его сельцы занимались рыбой в озере Задревское. Селение возникло в 996 г. Деспот Зенович приезжий магнат облюбовал это место и основался в 1005 году.

После его смерти владел им сын Данут Зенович после его племянник С, Зенович. Поселение перво Посадник было 13 домов. После него в 1349г. был племянник сын Гвидон и он был владельцем деревни, рыбой занимался. А последним владельцем был Зенович Героним в 1409 г. Получил уже местечко, 26 домов и 13 корчмы."

Трэба толькі дадаць крыніцу спасылкі аўтара. Адзіны экземпляр гэтай кнігі знаходзіцца ў адной з бібліятэк Расіі.

Такім чынам, Паставы становяцца пятым па старажытнасці горадам на Беларусі пасля Полацка (862 г.), Віцебска (944 г.), Турава (980 г.) і Заслаўя (985 г.).

*І.Зямчонак.*

## Мікалай Статкевіч зноў на чале "Народнай Грамады"

6 чэрвеня адбыўся чарговы III з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада". У кіназале менскага гатэля "Турыст" сабралася больш за 110 дэлегатаў з усіх рэгіёнаў Беларусі.

У палітычным дакладзе лідэр партыі Мікалай Статкевіч сённяшні рэжым ахарактарызаваў як аўтарытарны з тэндэнцыяй пераўтварэння ў таталітарны. У краіне не існуе падзелу ўладаў, не дзейнічаюць правамоцны парламент, незалежны суд і пракуратура, масава парушаюцца правы чалавека. Дрэнна ідуць справы ў эканоміцы. Уладны клан працягвае прыватызацыю найбольш даходных сфераў, існуе спроба арганізаваць эканамічны ўздым праз "накачку" эканомікі пустымі, нічым не забяспечанымі грашыма. Відавочнымі застаюцца спробы "прарыву" Лукашэнкі ў Крэмль.

Партыя дзейнічае ва ўмовах жорсткага пераследу. Кожная палітычная акцыя суправаджаецца арыштамі яе актывістаў, судовымі спагнаннямі. Напярэдадні з'езду БСДП пазбавілі былой штаб-кватэры. Ёсць пэўныя фінансавыя цяжкасці. Закрыты рахунак у банку. Партыя існуе на дабраахвотныя ахвяраванні. Тым не менш, можна з упэўненасцю сцвярджаць, пра што сведчылі выступы на з'ездзе, сябры поўныя жадання змагацца.

Былі адзначаныя некаторыя змены напрамкаў дзейнасці. Партыя зараз накіроўвае свае сродкі на працу ў рэгіёнах. У рэспубліцы ідзе стварэнне 24 інфармацыйна-прапагандысцкіх цэнтраў. Кожны з такіх цэнтраў павінен мець кампутар, памнажальную тэхніку і электронную пошту. Кампутары зараз маюць 15 раённых арганізацый. Выходзяць 17 рэгіянальных інфармацыйных бюлетэняў і газет накладам ад 250 да 2500 асобнікаў.

Зараз партыя паставіла галоўную задачу - заваяванне даверу простых людзей. Зрабіць гэта ў рэгіёнах можна толькі бароннячы канкрэтныя інтарэсы канкрэтных людзей.

Не засталося па-за ўвагай пытанне пра адносіны да магчымых выбараў прэзідэнта, у мясцовыя органы ўлады і парламент.

З'езд прызнаў мэтазгодным удзел партыі ў мясцовых выбарах. Але адмовіўся ад удзелу ў выбарах у прапрэзідэнцкі парламент, а ўдзел у выбарах прэзідэнта абумовіў дэмакратызацыяй усяго грамадства. Былі праведзеныя выбары старшыні партыі, старшыні рэвізійнай камісіі і цэнтральнага камітэту партыі.

На пасаду старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" амаль што аднагалосна зноў быў абраны Мікалай Статкевіч.

*"Пагоня"* *Язэп Палубятка*

## ДАПАМОЖАШ КАЛГАСУ - ДАПАМОЖАМ ТАБЕ

Ва ўмовах сённяшняга вострага недахопу рабочых рук на вёсцы, шмат чаго можна дабіцца, калі падысці да людзей па-чалавечы, паклапаціцца пра іх надзённыя праблемы і дапамагчы іх вырашыць. Нічога звышнатуральнага не прыдумалі ў калгасе "Савецкая Беларусь" Докшыцкага раёна, а вырашылі пытанне папаўнення кармавой базы для жывёлагадоўлі па-свойму. Дамовіліся з вяскоўцамі вясною, што калі чалавек возьме даглядаць сотак 20 бурачкоў, у сваю чаргу гаспадарка на такой жа плошчы нарыхтуе яму на калгаснай тэхніцы сена для ўласных кароў. У залежнасці ад вырашчанага ўраджаю прадугледжваецца, што восенню за салодкія карэнні гаспадарка разлічыцца зернем, што таксама задавальняе сялян. Не так і шмат часу кіруе гэтай гаспадаркай малады старшыня Сяргей Абірала, але ўжо здолеў дабіцца павагі людской, бо заўжды чула ставіцца да праблем і ва ўсім стараецца дапамагчы. Вось і зараз, нягледзячы на дажджы, вяскоўцы не хвалююцца, бо ведаюць: з сенам яны абавязкова будуць.

## І ЗА ЛАПІКАМ ЗЯМЕЛЬКІ - ЧАРГА

Хоць і ўдалося летась забяспечыць яшчэ 248 жыхыроў Пастаў прысядзібнымі ўчасткамі, да гэтага часу ў горадзе застаецца чарга з 50 чалавек на атрыманне ўласнага кавалка зямлі. Праўда, разлічваць, што такое месца будзе выдзеленае бліжэй як за 4-5 км ад райцэнтра, ужо не даводзіцца, бо прыдатныя мясціны разабраныя. Насельніцтва актыўна ратуецца ад голаду на сваіх "фазэндах" і ўжо зараз разам з фермерамі акрамя блізу 90% ураджаю бульбы і агароднiны ў агульным аб'ёме вытворчасці раёна дае да 40% малака, 22% мяса, 17% зерня.

Яшчэ тры фермерскія гаспадаркі былі створаныя за апошні год, а ўсяго іх застаецца працаваць у раўне 44. Аднак трывожыць, што за гэты ж час сем прыватных гаспадарак спынілі сваю дзейнасць, свядома не прайшлі перарэгістрацыю альбо самі адмовіліся ад працы на зямлі. Не вераць людзі, што гэты занятак мае нейкую перспектыву і адпаведную дзяржаўную падтрымку. Летась ніводны чалавек на Пастаўшчыне не выкупіў у сваю прыватную ўласнасць той кавалачак зямлі, які ён сёння апрацоўвае.

## УРАГАН НАГАДАЎ ПРА СЯБЕ

Страшныя ўраганныя вятры з праліўнымі дажджамі і градам, якія абрынуліся на Віцебшчыну, нямала бедаў нарабілі на захадзе вобласці. На Докшыцкі і Шаркоўшчынскі раён выпала па 50 мм ападкаў. У апошнім многія палеткі ў нізкіх мясцінах проста патанаюць у вадзе і на іх немагчыма весці касавіцу. Градзіны велічынёй са сліву бамбардзіравалі Верхнядзвіншчыну, дзе выпала 77 мм ападкаў. Што што перавышае паўтарамесячную норму. Ураганны вецер з градам толькі краем зачапіў Пастаўскі раён, але і тут нарабіў клопату людзям. У лічаныя хвіліны моцныя парывы ветру разбурылі цялятнік у калгасе "Перамога", а ў калгасе "1-е Мая" ураганам знесла дах з малочнатаварнай фермы. З-за стыхііі ў шэрагу месцаў была спынена падача электраэнергіі і парушана тэлефонная сувязь.

*Са свету па навіне*

## ЦАРКОЎНЫ ЗВОН НА ТУРЭМНЫМ ДВАРЫ

Услед за выпускам першай у краіне ўласнай газеты "Фрэгат "Надзея" Віцебская працоўная калонія для няпоўнагадовых №3 займела днямі ... праваслаўную царкву на сваёй тэрыторыі. Першую святочную літургію ў новым хрпаме і малебен з вадасвячэннем правёў епіскап Віцебскі і Аршанскі Дзмітрый. Дапамагаў яму весці службу духоўны хор болей як з 20 асуджаных. Яшчэ раней старшы турэмны святар епархіі айцец рыгор у пакоі абрадаў шмат працаваў з выхаванцамі. Якія толькі яму маглі даверыць таямніцы сваіх заблукалых у гэтым свеце душ. У гэтай калоніі шмат робіцца дзеля выпраўлення чалавека на шлях праўды і дабра, нават сцены ў пакоях пафарбавалі ў светлыя колеры. Уласнымі рукамі малабыя вязні ўпрыгожылі спальныя пакоі дабротнай мэбляй, якую яны пастаўляюць, выйграўшы конкурс, знакамітай пінскай мэблевай фірме.

У калоніі адбываюць розныя тэрміны зняволення болей за 600 юнакоў ва ўзросце да 18 гадоў. На царкоўнай службе, якая будзе весціся тут у нядзелю і па асноўных хрысціянскіх святах у храме, што дапамагалі ўзводзіць сваімі рукамі хлопцы, змогуць адначасова прысутнічаць 130-150 выхаванцаў. Застаецца спадзявацца, што сапраўдныя чалавечныя адносіны да іх з Боскай апекай дапамогуць маладым людзям у будучым не дапускаць фатальных памылак у жыцці, канчаткова выправіцца і пераадолець сябе.

## ЦЯГНІК – ЗАБОЙЦА

Працяглыя дажджы і навальніцы, якія некалькі дзён бушавалі ў краіне, не пашкадавалі не толькі людзей, але і жывёлу. Адразу 22 галавы маладняку буйной рагатай жывёлы раптоўна знайшлі сваю смерць непадалёк ад станцыі Кульгаі на Чыгуначным перагоне Полацк-Круляўшчызна. Гэты статак буронак з калгаса імя Ціміразева Глыбоцкага раёна круглыя суткі знаходзіўся на пашы паблізу чыгункі. Але ў тую ноч моцныя раскаты грому і вялізныя бліскавіцы надта спудзілі цялушак і яны прарвалі загароду электрапастуха і ў паніцы лабеглі куды вочы глядзяць. Іх паспеў пабачыць на рэльсах машыніст пасажырскага цягніка Гомель-Рыга і прымяніў экстранае тармажэнне, але прадухіліць наезд на статак яму не ўдалося. Акрамя тых, што загінулі на месцы, некаторыя жывёлы атрымалі пашкоджанні. Астатнія толькі моцна спалохаліся.

## ЯК У ГАДЫ ПРЫМУСОВАЙ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

Не толькі ў буйных гарадах, але і ў ціхай раней, занятай працаю вёсцы робіцца неспакойна. Пэўна, гаротнае жыццё так дапякае вяскоўцаў, што яны рашаюцца на адчайныя дзеянні. Вось і ў калгасе імя Мічурына Талачынскага раёна тры маладыя мужчыны за адну ноч вывелі са строю 37 адзінак сельскагаспадарчай тэхнікі. Акрамя гэтага, пракалолі 125 калёс трактароў і машын, якія знаходзіліся як на двары для машын гаспадаркі, так і на панадворках працаўнікоў. У напружаны час веснавой пільніцы падобная акцыя - адчувальная замінка для нармальнага завяршэння работ, тэрмін якіх аблсельгасхарч і так перанёс на больш позні тэрмін.

## СУСЕД ЗАБІЎ СУСЕДА З-ЗА КАРОВЫ

Напэўна, варта перастаць гаварыць пра беларусаў як пра памяркоўны, спакойны і добры народ. Ва ўсякім разе. Нельга зразумець, чаму пенсіянер з вёскі Сталбцы Чавшніцкага раёна К. стрэліў з незарэгістраванага паляўнічага ружжа ў грудзі свайму 70-гадоваму суседу. Праз некалькі гадзін апошні памёр ад раны ў раённай бальніцы. Такім чынам, быўшы на падпітку. Аднавяскоўец вырашыў разабрацца са сваім крыўдзіцелем з-за ... ягонай каровы, якая залезла ў чужы гарод і нарабіла там нямала пустак. Але ж каб за гэта пазбаўляць жыцця другога чалавека? Такая ж недарэчная смерць знайшла сабе ахвяру ў Бабінічскім доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў. Тут думаў знайсці спакой напрыканцы жыцця, вярнуўшыся з турмы. Ш. Але яго па незразумелых прычынах забіў сусед па палаце. Катооры год па фактах наўмысных забойстваў віцебшчына займае сумнае першынство ў краіне.Калі ў пачатку 90-х гадоў у рэгіёне было толькі 73 падобныя трагедыі за год, то летась зафіксавана 178 забойстваў. У бягучым годзе адбылося ўжо 91 забойства, больш паловы з іх - у часе сямейна-бытавых разборак. Услед за буйнымі гарадамі гэтым пачалі займацца і ў сельскай мясцовасці.

***Уладзімір Шык***



# Стукацца ў кожнае сэрца



*Старонняму чалавеку, які ў свята трапіць у Пастаўскі касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны, кінецца ў вочы, як шмат там дзяцей. Прынамсі я, пабыўшы на ранішняй Святой Імшы. Была вельмі ўражаная: дзіцячая працэсія з ліхтарыкамі ў некалькі радоў займала ўвесь касцёл! Падумалася: можа, тут і няма тых праблем, якія на кожным кроку сустрэнеш у іншых парафіях? З гэтага пытання мы і пачалі нашую размову з пробашчам касцёла, айцом Збігневам Боярам.*

—Праблем у Пастаўскім касцёле, думаю, не менш, чым у іншых. Так, у нас шмат дзяцей - гэта кідаецца ў вочы прыезджаму чалавеку. Але калі пільней прыгледзішся, то нельга не заўважыць і таго, што дзяцей шмат, а моладзі - не надта. І прычына ў тым, што большасць дзяцей на катэхізацыю да Першай споведзі прыводзяць бабулі. Мамы з татамі, на жаль, ніяк не могуць знайсці для гэтага часу. А бабулі, давёўшы дзіця да Першай Споведзі, супакойваюцца - выканалі свой абавязак. І калі пачынаеш гэтых дзяцей зноў запрашаць на ўрокі рэлігіі, то яны здзіўляюцца: "А навошта? Я ж ужо быў у Першай Споведзі." Альбо сустрэнеш і такое: хтосьці з падлеткаў прыступіў да сакрамэнту Бежмавання ў нейкім іншым касцёле. Пытаю: "Хто цябе рыхтаваў да гэтага сакрамэнту?" Здзіўляецца: "А што, трэба было рыхтавацца?" "Добра,— кажу,—ты прыняў гэты сакрамэнт. А ці ведаеш, што цяпер ты павінен умацоўваць сваю веру, перадаваць і абараняць яе?" Паціскае плячыма. І дзіўна, але бабулі таксама гэтага добра не разумеюць. Часам яны больш клапоцяцца пра механічнае выкананне нейкага абраду, чым пра яго сутнасць.

*—Але зразумець падобную сітуацыю таксама можна. Бо вера на нашай зямлі ў асноўным захавалася сярод старэйшага пакалення. Бацькі ж тых самых дзяцей, што цяпер ідуць да Першай споведзі, вельмі часта раўнадушныя да веры. А з бабуляў, як кажуць, што возьмеш? Калі яны ў іхнім веку стараюцца далучыць сваіх унукаў да бога, то і за гэта ім дзякуй. А з другога боку (хоць, мабыць, і жорстка так казаць), тыя ж бабулі. Якія цяпер клапоцяцца пра сваіх унукаў, усё ж дапусцілі, каб у душах іхніх дзяцей пасялілася абыякавасць да веры.*

—Гэта спадчына ваяўнічага атэізму, які раскашаваў на гэтай зямлі. Але выпраўляць плады такой спадчыны трэба, калі мы хочам перамагчы многія праблемы духоўнага жыцця. Я ўжо, мабыць, надакучыў парафіянам сваімі напамінамі на гэты конт, але ўвесь час паўтараю: "Калі вы, давёўшы дзетак да Першай Споведзі, не будзеце потым клапаціцца пра іхні духоўны рост - у сям'і, у вёсцы, у адносінах паміж людзьмі,— то ўсе вы застаецеся ахрышчанымі атэістамі".

*—Сурова.*

—Але гэта праўда! Гэта праўда, якой бы яна не была балючай! У праблеме адарванасці хлопца альбо дзяўчыны ў юначым узросце ад Касцёла тояцца многія і многія праблемы. Гэта і рост злачынстваў сярод падлеткаў і моладзі, і наркаманія, і прастытуцыя, і непавага маладых людзей да старэйшых, да сваіх бацькоў, зрэшты, да сваёй Радзімы. Вось у нашым касцёле адбываюцца цяпер сустрэчы моладзі, на якіх яна вывучае Евангелле, разважае над праўдамі веры, спявае хрысціянскія песні. Але на гэтыя спатканні ходзіць 20-25 чалавек. А дзе ўсе тыя, што за гэтыя гады прыступалі да Першай Споведзі? Штогод у нас прымаюць Першую Святую камунію прыкладна 100 чалавек. Вось вам і карціна. Прааналізуеш яе і задумаешся: дзе ж тая моладзь, якая пару гадоў назад так прыгожа, у белі, прымала езуса ў сакрамэнце? Што думаюць пра гэта таты і мамы? Цяжка даведацца. таму што большасць татаў і мамаў таксама не бываюць у касцёле кожную нядзелю.

*—Айцец Збігнеў, але скажыце, якое ж тут выйсце?*

—Стукацца ў кожнае сэрца. Людзей сярэдняга пакалення таксама можна зразумець. Мне нярэдка кажуць:"Я ўжо згубіў свой час. Я не магу быць у касцёле разам з дзецьмі, вучыць тое ж, што і яны. Але мне цяжка знайсці агульную мову і з бацькамі". І гэта праўда. Ёсць пэўны разрыў паміж тымі, хто яшчэ жыве ў так званым польскім касцёле, і тымі, хто няхай сабе паволі, але ўсё ж уваходзіць у рымска-каталіцкі Касцёл. Зноў жа: савецкага народа ўжо няма. А беларускі яшчэ не замацаваў грунтоўна свой падмурак. На нашых сямейных спатканнях многія таты і мамы ўздыхаюць: "Трэба неяк вывучыць родную мову, бо ксёндз стараецца гаварыць па-беларуску, а мы самі не ўмеем". Праблема. І не такая малая, як некаму здасца на першы погляд.

*—Дарэчы, не палічыце за камплімент, але беларускай мовай Вы ўжо валодаеце даволі прыстойна. Калі б Вашы парафіяне вывучалі яе такімі ж тэмпамі, то не даводзілася б Вам размаўляць з імі на розных мовах. Але дапусцім: мы добра ўсвядомілі прычыны нашых бедаў. Што далей? Як з імі змагацца?*

—На мой погляд, трэба ў парафіях ствараць розныя супольнасці. Якія б лучылі дзяцей, моладзь, дарослых, сем'і. Вось пасылаем мы дзетак у летні лагер "Канікулы з Богам", які працуе ў Камаях, і бачым, як яны там ужо таму-

сяму вучацца. Яны вучацца жыць, адпачываць, набірацца здароўя і не траціць, але павялічваць пры гэтым свой духоўны здабытак.

Ёсць яшчэ ў свеце такі рух - факулярыйны, які нарадзіўся ў часе вайны ў Італіі. Ён увабраў у сябе вельмі прыгожыя правілы, якія дапамагаюць людзям не аддзяляцца ад іншых у сваіх бедах, але, наадварот,-- ісці да людзей. Ісці да людзей і ўзбагачаць іх сваім "я". Галоўны, так бы мовіць, прамень гэтага руху - еднасць паміж людзьмі ў духу Евангелля. Група моладзі з нашай парафіі таксама далучылася да гэтага руху. Сувязі ўжо наладжаны. Мы атрымліваем розную літаратуру, "Слова жыцця" і г.д.

*--Але гэта ў асноўным дзяўчаты. А хлопцы? Як, скажыце, зрабіць, каб у Касцёле былі, а не наведвалі яго час ад часу хлопцы, мужчыны?*

--Вельмі сур'ёзная праблема. У дзяцінстве ўсё прасцей - хлапчукі ахвотна ходзяць на рэлігійныя заняткі, служаць міністрантамі, удзельнічаюць у працэсіях, святах. У часе ж пераходнага ўзросту на іх вельмі моцна ўплывае сіла свету, якая часам нясе для іх вялікую небяспеку. У гэты час падлетак мацней, як калі, цягнецца да сваіх равеснікаў, а яны, як ведаем, часта ўплываюць не лепшым чынам, у іх дзейнічае іншая шкала каштоўнасцяў. Вось і атрымліваецца: касцёл кажа адно, а равеснікі сцвярджаюць супрацьлеглае. А калі ўлічыць тыя "каштоўнасці", што нясуць маладым людзям тэлевізар, сучаснае кіно? Балюча, але часта падлетак выбірае шалёную музыку, сумніўныя кінафільмы, тую тэорыю "лёгкага хлеба", якая пануе сярод сягонняшняй моладзі. "Не крадзі? Але многія вунь крадуць і нажылі багацце. Не падманвай? Але многія толькі на ашуканстве трымаюцца і таксама не бедныя?". Падобных "аргументаў" звальваецца на галаву падлетка вельмі шмат. А калі ў дадатак яшчэ тату з мамай усё роўна, што там творыцца ў хлапечай душы? Вось тады і робіцца выбар. І часта, на жаль. не на карысць дабра.

Крыўдна бывае, калі ўспомніш, што ў свой час я з гэтымі самымі падлеткамі, якія цяпер шукаюць "лёгкага хлеба", далёкага ад навукі касцёла, усё Евангелле прачытаў, тлумачыў ім кожную яго праўду, кожную прыпавесць. Кожны ўчынак Езуса. Але неяк так атрымліваецца, што яны ўспрымаюць гэта як чарговую навуку, па якой трэба здаць экзамен, а потым зноў жыць па-свойму. Евангелле здаецца для іх прыгожым, цудоўным, але не тым, што трэба выконваць. Задужа вялікі адрыў паміж тым, што кажа ім у касцёле святар, сябар - у двары, бацька альбо маці - дома, настаўнікі - у школе.Калі б сям'я таго хлапчука альбо тае дзяўчыны жыла па Евангеллю, усё было б не так трагічна ў жыцці нашай моладзі.

*--Скажыце, калі ласка, а бываюць такія выпадкі, што пабегае-пабегае хлопец альбо дзяўчына дзесьці ўдалечыні ад Касцёла, пашукае лёгкага жыцця, а потым усё ж вернецца ў Касцёл?*

--Бываюць. Рэдка, але здараюцца. Аднак часта тое вяртанне ўжо зранена грахом. Лепш, чым у Евангеллі, пра такую праблему не скажаш: "Калі нячысты дух выйдзе з чалавека, то ходзіць па бязводных мясцінах, шукаючы супакою, і, не знаходзячы, кажа: "Вярнуся ў дом, адкуль выйшаў". І, прыйшоўшы, знаходзіць яго вымеценым і прыбраным; тады ідзе і бярэ з сабою сем іншых духаў, больш злых за яго, і, увайшоўшы, жывуць там. І бывае для чалавека таго апошняе горш за першае." (Лк 11, 24-26). Можна запытпаць: калі ўсё так трагічна, то ці ёсць паратунак? Ёсць. Споведзь. Калі чалавек пасля свайго падзення па-сапраўднаму хоча падняцца, яму проста неабходна спачатку ачыс3ціць сваю душу. На споведзі чалавек не прыкідваецца, не спіхвае сае віны на іншага. Вось тады яму і можна дапамагчы. Чалавек павінен адчуць Божую дабрыню ў адносінах да сябе. Як адчула яе некалі Марыя Магдалена альбо мытнік Мацвей.

*--Часам даводзіцца чуць, штло самае цяжкае для святара - яго паслуга ў канфесіянале...*

--Вядома, гэта цяжка. Часам плачаш разам з тым чалавекам, часам чуеш сваю бездапаможнасць перад злом, якое апаноўвае людзьмі. Але менавіта ў канфесіянале святар найбольш можа дапамагчы чалавеку. І калі дапаможаш таму, хто ўжо стаяў на краі бездані, то і радасць, і ўзнагарода тады святару непараўнаныя ні з чым. Дзеля гэтага варта перажыць і боль, і непамыслоты - усё, з чым сустракаецца кожны святар.

*--Добра, дапусцім, хлопец альбо дзяўчына, перамогшы свой надлом, усё ж вяртаюцца у касцёл. Як утрымаць іх, як асцерагчы ад чарговых, яшчэ больш балючых падзенняў?*

--Зноў жа: вярнуся да таго, пра што ўжо казаў. Трэба. Каб у парафіі былі асяродкі, супольнасці, якія прынялі б маладога чалавека такім, як ён ёсць. Трэба, каб было яму з кім папіць тут гарбаты, а не гарэлкі, пагаварыць аб прыгожых рэчах, а не аб брыдкіх, паіграць на гітары. Паспяваць песні. І тады разам можна шукаць ідэал, які ёсць у Евангеллі. Гэтаксама, як і маладыя сем'і, утварыўшы у парафіі "Кола сямейнага касцёла", могуць знайсці вырашэнне ў ім самых розных сваіх праблем. Часта яны не падзеляцца імі з бацькамі, суседзямі, а вось тут, у сваім коле, яны не баяцца быць адкрытымі. У нашай парафіі ёсць два такія колы. Скажу шчыра праца з імі забірае лаволі шмат часу ў мяне, але шкадаваць яго не даводзіцца, бо гэта - не змарнаваны час.

*--Шчыра дзякую Вам, айцец Збігнеў, за гутарку і спадзяюся, што мы таксама не змарнавалі час, бо тыя вострыя, балючыя пытанні, закранутыя ў размове, цікавяць шмат каго.*

***Гутарыла Ірына Жарнасек***
***Часопіс "Ave Maria"***

# Малітва дзіцяці за сваю сям'ю

**О, Божа, Ойча усіх сем'яў, учыні, каб і наша сям'я стала падобнаю да сям'і Езуса, у якой Ён рос;**
**каб і наш дом быў падобны да Яго дома, у якім усе будуць паважаць і любіць адзін аднаго, справядліва дзяліць паміж сабой усё дабро. Калі ж мы зайздросцім іншым, не хочам дапамагаць іншым і ўпарта стаім на сваім – дапаможы нам, пане, зноў стаць добрымі адзін да аднаго.**
**Амэн.**

# Малітва дзіцяці за сваіх равеснікаў-сіротаў

**Дарагі Ойча!**
**Атулі, просім, асаблівай апекай тых дзяцей, якіх пакінулі таты і мамы. Дапамагай ім. Няхай яны ведаюць, што Ты любіш іх, што Ты заўсёды побач з імі, каб суцяшаць і мець у сваёй апецы.**
**Амэн.**

# ВЫПУСКНІК ДАПАМОЖНАЕ ШКОЛЫ

У самой назве гэтых школ ёсць нейкая няпэўнасць - дапаможныя школы-інтэрнаты. Ды і размяшчаюцца яны далёка ад буйных гарадоў, нават не ў раённых цэнтрах. Вось тыя дапаможныя школы, якія ведаю: пасёлак Крывічы, гарадскі пасёлак Варапаева, вёска Опса. Яўна праглядаецца імкненне не тое, што схаваць, не называць, але не акцэнтаваць увагі і, па меры магчымасці, пакідаць гэтыя школы і гэтую рэчаіснасць на другім плане. У засені нашага светлага жыцця. Так было ў часы развітога сацыялізму. Але і сёння, калі нават заядлыя аптымісты не называюць жыццё светлым. Гэтая праблема грамадства па-ранейшаму на другім плане.

Гадоў з дзесяць назад, калі тэлевізійным каментатарам было дазволена не проста зачытваць з экранаў пэўны тэкст, а нават разважаць, гаварыць чалавечай мовай, адзін з іх, помніцца, вельмі ўсхвалявана расказваў пра Амэрыку менавіта сваё, убачанае: там ёсць людзі, і іх нямала, якія нічога не могуць сказаць ні пра існаванне СССР , ні пра другую сусветную вайну. І між тым жывуць сабе, нармальна жывуць. Працуюць на ферме ці яшчэ дзе. Тады пад гэты факт падводзілася палітычная платформа, гаварылася нешта пра ідэалагічную апрацоўку. А мне падумалася: пры чым тут ідэалогія? Проста людзі такія абмежаваныя. Не патрэбна ім нічога ў гэтым свеце акрамя свайго поля, свайго дома. І навука не патрэбная была, вось і не вучыліся. Гэта ж толькі ў нас абавязковая сярэдняя адукацыя. І чалавека, арганічна няздольнага засвоіць курс пачатковай школы, цягнуць з класа ў клас аж да гадоў васемнаццаці.

Успомніліся тыя часы і тыя каментатары, калі гэтай вясной выпадкова пазнаёміўся з дырэктарам Крывіцкай дапаможнай школы-інтэрната Францам Ракецкім. Шмат тады ён расказаў пра сваю школу, сваіх выхаванцаў, пра праблемы, якія наша грамадства не хоча пакуль што заўважаць.

Потым усё збіраўся пабываць у Крывічах. Ды неяк не атрымалася. Але дапаможную школу ўсё-такі наведаў, у гарадскім пасёлку Варапаева.

1 верасня гэтага года села тут за парты каля ста хлопчыкаў і дзяўчынак. У большасці з іх дыягназ: алігафрэнія ў ступені дэбільнасці і, у апошні час, праўда, накіроўваюцца ў школу дзеці з алігафрэніяй у ступені імбіцыльнасці. Ёсць і яшчэ адна ступень - ідыятыя, але гэта ўжо іншая размова. Не, гэтыя дзеці нармальныя. Знешне іх немагчыма адрозніць ад навучэнцаў нашых звычайных школ. Проста разумовая адсталасць. Алігафрэны не могуць засвоіць курс звычайнай школы, "выпадаюць" з асяроддзя сваіх аднагодкаў. Тут за перыяд вучобы, які адпавядае па часе базавай школе, яны засвойваюць праграму прыкладна чатырох класаў пачатковай. У дапаможных школах не вывучаецца фізіка, хімія. Матэматыка і гісторыя вывучаюцца і самым сціслым і жыццёва неабходным аб'ёме. Затое шмат часу ўдзяляецца сацыяльнай арыентацыі - як., напрыклад, наведаць краму, пазваніць па тэлефоне, спытаць адрас. І асаблівая ўвага працоўнаму навучанню. У Варапаеўскай школе, напрыклад, дзяўчатам прывіваюць навыкі аператараў машыннага даення кароў, хлопчыкам - аператара па адкорму жывёлы. Такая арыентацыя зразумелая - у школе дзеці з сельскіх раёнаў Віцебшчыны.

Як расказалі мне спецыялісты, да пяці працэнтаў дзяцей "выпадаюць" з асяроддзя аднагодкаў менавіта з-за сваёй разумовай адсталасці. Выяўляецца гэта ў дзіцячых садках. У першых класах звычайнае школы. Заўсёды, зразумела, гэта становіцца трагедыяй для бацькоў. Ну а прычын гэтай з'явы - цэлы букет. І алкагалізм бацькоў стаіць, як аказваецца, не на першым месцы. Экалогія, шматлікія іншыя фактары прыводзяць да з'яўлення такіх дзяцей. Ва ўсіх школах, з якімі я знаёміўся, старыя педагогі адзначаюць, што яны ўжо навучаюць другое пакаленне алігафрэнаў, за парты дапаможных навучальных устаноў садзяцца ўжо дзеці тых, хто некалі закончыў гэтыя школы.

За апошнія гады змяніліся прынцыпы падыходу да вырашэння гэтай праблемы . Некалі, у шасцідзесятыя-сямідзесятыя гады, успамінаюць ветэраны дапаможных школ, накіроўваліся сюды хлопчыкі і дзяўчынкі проста з затрымкай псіхалагічнага развіцця. "Нармальныя" школы імкнуліся стаць узорна-паказальнымі і папросту пазбаўляліся ад усякага, хто не мог хутка засвоіць курс, псаваў агульны радасны малюнак высокай паспяховасці. Сёння, калі ўзяты курс на інтэгрыраванае навучанне, ёсць магчымасць не накіроўваць такіх дзяцей у спецыяльныя школы. Для іх можна ствараць спецыяльныя класы, у звычайных класах вылучаць групы навучэнцаў, з якімі патрабуецца спецыяльная работа. Але гэта толькі пры ўмове наяўнасці спецыялістаў. Таму зразумела, што пра інтэграванае навучанне можна весці размову толькі ў буйных гарадах. Таму ніхто не гаворыць аб ліквідацыі дапаможных школ. Ды без іх у нашшых умовах проста не абысціся.Бо пераважная большасць алігафрэнаў паступаюць у школы з сацыяльнага дна нашага грамадства. Гэта выдатна бачаць педагогі школ, абследуючы ўмовы жыцця сваіх навучэнцаў у часе летніх канікулаў. Ну а ў канцы канікулаў, калі дзеці вяртаюцца ў школу,--сапраўдны аўрал. Найперш трэба адмыць, прадэзінфецыраваць хлопчыкаў і дзяўчынак. Некаторыя з іх за лета не тое, што лазні не бачылі -- не бачылі звычайнай прасціны. У Варапаеве мне расказалі, што маці аднаго з хлопчыкаў, прывезшы свайго сына ў школу, зайшла ў спальны пакой і шчыра здзівілася: "Тут нават пакрывала ёсць?" Сёлета дырэктар школы Міхаіл Атлічнікаў перад прыездам дзяцей для таго, каб знайсці грошы на мыла і пральны парашок, павінен быў ехаць аж у Віцебск. Толькі тады былі выдзелены 18 мільёнаў. Школа фінансуецца з раённага бюджэту. А ў ім, як правіла, няма ні капейкі. Грошы даюцца толькі на харчаванне дзяцей і аплату працы педагогаў, іншых работнікаў школы. Пра астатняе даўна забыліся. Ужо тры гады як дзяржава адмовілася ад абавязку апранаць навучэнцаў. Апранаюцца толькі сіроты - таму сіроцкая школа ў вёсцы Опса Браслаўскага раёна сёння значна ў лепшай сітуацыі - там і дзяржаўная дапамога большая, ды і дабрачынная дапамогай сіраты не абдзеленыя. А вось звычайным навучэнцам дапаможных школ даводзіцца нясоладка.Большасць бацькоў гэтых дзяцей проста не маюць магчымасці набыць вопратку, абутак. Хто з-за беспрабуднага п'янства, а хто - з-за галечы. Не выкліканай нейкімі асабістымі заганамі. У мінулым годзе, калі прыйшлі халады, а дзеці ў школе не мелі ні цёплай вопраткі, ні абутку, дырэктар школы ў Варапаеве, пасля безнікаватага хаджэння па інстанцыях, звярнуўся да мясцовага ксяндза. Той у сваю чаргу - з амвона да парафіян. І неслі людзі, хто што мог. Удзячныя ў школе і нешматлікім цяпер шэфам, якія хоць і па крапельцы, адрываючы ад сябе, але дапамагаюць. Гэта мясцовы дрэваапрацоўчы камбінат. Дыстанцыя чыгуначнага пуці, калгасы "Дружба" і імя Суворава.

Але самае вострае, самае балючае пытанне - лёс выпускнікоў дапаможных школ. Вось тут ужо немагчыма сказаць такія звычныя пры выпуску словы пра тое, што адкрываюцца ўсе дарогі...

Нехта пасля дапаможных школ выпраўляецца працягваць навучанне ў спецыяльных ПТВ. Ёсць такія ў Віцебску, Полацку, Друі. Большасць - да бацькоў. Але працаўладкоўваюцца вельмі і вельмі нямногія. Ва ўмовах, калі чалавек з нармальным развіццём і адукацыяй не можа знайсці сабе месца пад сонцам, што гаварыць пра гэтых гаротнікаў. Настойліва спрабаваў я знайсці адказы на свае пытанні ў спецыялістаў і прыйшоў да пераканання, што менавіта выпускнікі гэтых школаў папаўняюць самую непрадказальную, сацыяльна небяспечную праслойку нашага грамадства.Гэтыя юнакі і дзяўчаты вельмі лёгка паддаюцца чужому ўплыву, падпарадкоўваюцца чужой волі. З іх апошнім часам рэкруціруецца маладое папаўненне крымінальнага свету. Ёсць, безумоўна, і шчаслівыя выключэнні, але тэндэнцыя адназначная.

Вось чаму ўзгадаўся мне тэлевізійны каментатар. Напэўна, менавіта з такімі людзьмі давялося яму сустракацца. Між іншым, як адзначаюць спецыялісты, на захадзе ўвогуле няма пры характарыстыцы дзяцей катэгорыі "разумовая адсталасць". Там іх называюць "дзеці са своеасаблівасцямі разумовага развіцця". А своеасаблівасць - не загана. Але гэта ўжо са сферы правоў чалавека.

***Алесь Касцень.***

*Да гісторыі рода*

# ФЕРДЫНАНД ТЫЗЕНГАУЗ

# ПЕЦЯРБУРГСКАЯ ГАЛІНА

У часе панавання савецкай гісторыяграфіі на імёнах прадстаўнікоў рода Тызенгаўзаў ляжала пячатка пэўнага табу. Ухваляць нашчадкаў крыжакаў было, так бы мовіць, непатрыятычна.Тая аднабаковасць, як і ўсялякая іншая , карысці не несла. Адважныя рыцары, асеўшы на новых землях, пакінулі адметны, а нярэдка і вельві яркі след у гісторыі краіны пасялення. Бароны і графы Тызенгаузы таксама сталі асобамі інтэрнацыянальнымі. Немцы па паходжанні, варагі па духу, шчыравалі на ніве краіны пражывання: будзь то Польшча, Расея ці якая іншая. Дастаткова згадаць прадпрымальніцкую дзейнасць Антонія тызенгаўза на карысць Беларусі, Літвы, Польшчы, альбо навуковую - сусветна вядомага арнітолага Канстанціна Тызенгаўза, народжанага, пражыўшага плённае жыццё і пахаванага на Беларусі (дзеля ісціны варта зазначыць, што менавіта тут ён менш за ўсё вядомы).

Пецярбургская галіна фаміліі Тызенгаўзаў мела цікавыя стасункі, у тым ліку роднасныя, з заможнейшымі і найбольш вядомымі асобамі Расіі.

Тызенгаўз (Тизенгаузен) Фёдар (Фердинанд) Іванавіч (1782-02.12.1805 г.), граф, быў флігель-ад'ютантам Аляксандра I (цараваў у 1801-1825 гг.), штабс-капітанам інжынерных войскаў, удзельнічаў у вайне з Напалеонам. Загінуў 22-х гадоў у Аустэрліцкай бітве. Павёў адзін з контратакуючых атрадаў з разгорнутым сцягам у руках і атрымаў смяротную рану. Гэты эпізод паслужыў асновай Л.М.Талстому пры апісанні подзвігу Андрэя Балконскага ў рамане "Вайна і мір". Фёдар Тызенгаўз быў зяцем (жанаты на Елізавеце) і любімцам М.І.Галянішчава-Кутузава. Фельдмаршал, у сям'і якога былі толькі дочкі, ставіўся да яго як да сына. Словы Кутузава : "Итак, ты - мать, дорогая Лиза, люби своих детей, как я люблю моих - этого довольно. Ежели быть у меня сыну, то не хотел бы иметь другого как Фердинанд".(З ліста 1803 года)

Галянішчава-Кутузава Елізавета Міхайлаўна 919.09.1783 - 02.05.1839 г.) фота 1.-дачка вялікага рускага палкаводца. Яна патрыятычна ганарылася сваім паходжаннем. І калінікалі нават падпісалася "урождённая княжна Кутузова-Смоленская", хоць яе бацька атрымаў тытул Святлейшага князя Смаленскага ўжо пасля яе замужжа ў 1802 годзе. Добра вядомая чытачам "Пушкинианы", устраіцельніца інтэлектуальных салонаў у Пецярбургу, Фларэнцыі, Неапалі. "Самозабвенный друг А.Пушкіна. Её письма к пушкину и переписка - богатый источник по общественной жизни первой пол.19 века". (*Н.Раевский "Портреты заговорили". Алма-Ата, 1981, "Друзья Пушкина. Воспоминания. Дневники."М., 1989 г.).* яе партрэты малявалі А.Брулоў і П.Сакалоў.

Елізавета заставалася ўдавою да 1811 г., а потым пайшла замуж за генерала Хітраво. У 1815 г. ён быў прызначаны рускім павераным у справах у Фларэнцыю. У Італію разам з ім выехала жонка і яе 2 дачкі. Тут у 1819 г. глава сям'і памёр. Дом Елізаветы Міхайлаўны ў Неапалі (пасля пераезду) стаў свайго роду рускім грамадскім цэнтрам.

Пасля вяртання ў 1827 г. у Расію яна пазнаёмілася з А.С.Пушкіным. Па словах Вяземскага, "питала к нему самую нежную, страстную "дружбу", захоўваючы і ў дадзеным выпадку "доблестные кутузовские традиции: большое уважение к проявлениям обиественной деятельности и горячую любовь ко всему, что составляет славу руского имени..." "Елизавета Михайловна и особенно её дочь Долли привезли с собой в Петербург горячую атмосферу бурлящей, готовой разразиться революциями Европы, чрезвычайно интересовавшей Пушкина. В письмах Елизавете Михайловне из Москвы он как-то пожаловался, что не в состоянии жить "среди орангутангов", не обращающих внимания на окружающий мир. В этом отношении салоны Хитрово и Фикельмон были исключением: там собирались люди, осведомлённые о европейских делах и заинтересованные (каждый по-своему, разумеется) в активной роли России в мировых событиях. У Елизаветы Михайловны и Фикельмонов, как писал Вяземский, "дипломаты и Пушкин были дома". Как ни дороги были поэту его "осенние досуги" в деревне, как ни любопытны литературные беседы у Карамзиных или общение с литературной молодёжью у Плетнёва, всё же ему при его всеобъемлющем гении, огромном интересе к истории и современности необходимо было общении с людьми политически образованными. Эту возможность давала Пушкину семья Хитрово-Фикельмон...

Она помогала Пушкину получить хоть отчасти подходящую ему службу, а затем улаживала недоразумения, связанные с отставкой; храбро сражалась за его литературную репутацию и однажды даже попыталась выступить в защиту обруганной булгаринской шатией VII главы "Онегина"; снабжала Пушкина иностранными книжками и журналами, в том числе и нелегально ввезёнными в Россию; опекала, пока это было нужно, в высшем свете жену Пушкина; сентиментально (до назойливости) заботилась о его здоровье; успешно хлопотала об устройстве Льва Сергеевича в армию; тщетно пыталась по просьбе Пушкина помочь Анне Петровне Керн в имущественных делах; использовала свои немалые связи, чтобы добиться для Пушкина разрешения на издание журнала; помогала и "Литературной газете". Последнее её "литературное вмешательство" в жизнь Пушкина относится к концу 1836 года. Елизавета Михайловна с негодованием отвела наветы на Пушкина, якобы унизившего её отца в стихотворении "Полководец" (посвящённом Барклаю де Толли). Она была способна стать выше толпы, не поддаться на уловки тех, кто пытался поссорить её с Пушкиным"(М.Раеўскі)

4 лістапада 1836 г. Елізавета Міхайлаўна атрымала па пошце пакет. Яна ўскрыла яго і, да свайго здзіўлення, заўважыла ў ім другі, адрасаваны Аляксандру Сяргеевічу Пушкіну. Не ведаючы, што ў ім, адаслала па адрасу. Так паэт атрымаў першы экземпляр мярзотнага "диплома ордена рогоносцев", разасланага кімсьці яго сябрамі. У той самы дзень В.А.Салагуб прыйшоў да Пушкіна з

акурат такім самым нераскрытым пакетам. Ён успамінаў: "...я отправился к Пушкину, и, не подозревая нисколько содержания приносимого мною гнусного пасквиля, передал его Пушкину. Пушкин сидел в своём кабинете. Распечатал конверт и сказал мне: —Я уж знаю, что это такое: я такое письмо получил сегодня же от Елизаветы Михайловны Хитровой: это мерзость поотив жены моей. Впрочем, понимаете, что безыменным письмом обижаться я не могу. Если кто-нибудь сзади плюнет на моё платье, так это дело моего камердинера вычистить платье, ане моё. Жена моя - ангел, никакое подозрение коснуться её не может. Послушайте, что я по сему предмету пишу г-же Хитровой.

Тут он прочитал мне письмо, вполне сообразное с его словами".

Елізавета Міхайлаўна прыязджала адразу пасля дуэлі да параненага Пушкіна, і, рыдаючы, паехала: ён не змог яе прыняць. А 29 студзеня яна з'явілася зноў, прабіваючыся праз натоўп у пярэдняй, увайшла. Не пытаючы дазволу, у кабінет Пушкіна і ўпала на калені перад паміраючым. Потым разам з абедзвюма дочкамі і зяцем прысутнічала ў канюшанай царкве на адпяванні паэта. Усяго на два гады паражыла яна генія. Пахавана ў Аляксандра-Неўскай лаўры ў царкве Сашэсця Св.Духа. Паэтэса А.Растапчына праводзіла яе ў апошні шлях вершамі:

*Прощальный гимн воспойте ей, поэты!В вас дар небес ценила, понялаОна душой,*
*святым огнём согретой,*
*Она друг Пушкина была!*

З перапіскі Елізаветы Міхайлаўны Галянішчавай-Кутузавай-Тызенгаўз-Хітраво з А.Пушкіным:

"Не знаю, сударыня, как выразить вам всю свою благодарность за участие, которое вам угодно было проявить к моему здоровью; мне почти совестно чувствовать себя так хорошо. Одно крайне досадное обстоятельство лишает меня счастья сегодня быть у вас. Прошу принять мои сожаления и извинения, равно как и выражение моего глубокого уважения.(Франц.)

*Пушкин - Е.М.Хитрово. 18 июля 1827.*

Такой скучный больной, как я, вовсе не заслуживает такой любезной сиделки, как вы, сударыня. Но я весьма признателен вам за это чисто христианское и поистине очаровательное милосердие. Я в восхищениию что вы



**Е.М.Кутузава-Тызенгаўз-Хітраво**
**Малюнак А.Кіпрэнскага**
**1816-1817 гг.**

покровительствуете моему другу Онегину; ваше критическое замечание столь же справедливо, сколь и тонко, как всё, что вы говорите; я поспешил бы придти и выслушать всё остальное, если бы не хромал ещё немного и не боялся лестниц. Пока что я разрешаю бывать себе только в нижних этажах. (Франц.)

*Пушкин - Е.М.Хитрово. 10 февраля 1828.*

"...Утолив в слезах мою любовь к вам, я всё же останусь тем же страстно любящим, кротким и безобидным существом, которое готово пойти за вас в огонь и воду - ибо так я люблю даже тех, кого люблю мало! (Франц.)

*Е.М.Хитрово - Пушкину. Сер.мая 1830.*

Мне очень досадно, что я не могу провести вечер у вас. Весть очень скучная, то есть обязанность, заставляет меня идти зевать сам не знаю куда. Вот, сударыня, книги, которые вы были так добры отдолжить мне. Легко понять ваше восхищение "Собором Богоматери". Во всём этом вымысле очень много преимущества. Но, но... я не смею выказать всего, что о ней думаю. Во всяком случае, падение священника со всех точек зрения великолепно, от него дух захватывает. "Красное и чёрное" хороший роман, несмотря на фальшивую риторику в некоторых местах и на несколько замечаний дурного вкуса.

*Пушкин - Е.М.Хитрово. Нач.июня 1831 г.*

Свистунов сказал мне, что увидит вас сегодня вечером; пользуюсь случаем, сударыня, чтобы просить вас об одном отдолжении; я предпринял исследование французской революции; покорнейше прошу вас, если возможнло, прислать мне Тьера и Минье. Оба эти сочинения запрещены. У меня здесь есть только "Мемуары, относящиеся к революции". На днях я рассчитываю на несколько часов приехать в Петербург. Я воспользуюсь этим, чтобы явиться на Чёрную речку.(Франц.)

*Пушкин - Е.М.Хитрово. Нач.июня 1831 г.*

Я только что узнала, что цензурой пропущена статья, направленная против вашего стихотворения, дорогой друг. Особа, написавшая её, разъярена на меня и ни за что не хотела показать её или взять её обратно. Меня не перестают терзать за вашу элегию - я настоящая мученица, дорогой Пушкин; но я вас люблю за это ещё больше и верю в ваше восхищение нашим героем и в вашу симпатию ко мне.

Бедный Чаадаев. Рн, должно быть, очень несчастлив, оттого накопил в себе столшько ненависти к своей стране и к своим соотечественникам. (Франц.)

Элиза Хитрова урождённая княжна Кутузова-Смоленская.

*Е.М.Хитрово - Пушкину. 4 ноября 1836 г.*

З успамінаў В.А.Салагуба:

"В летописях петербургского общежития имя Е.М.Хитрово осталось так же незаменимо, как было оно привлекательно в течение многих лет. Утра её (впрочем, продолжавшиеся от часу до четырёх пополудни) и вечера дочери её, графини Фикельмонт, неизгладимо врезаны в память тех, которые имели счастие в них участвовать. Вся животрепещущая жизнь европейская и русская, политическая, литературная и общественная - имела верные отголоски в этих двух родственных салонах. Не нужно было читать газеты, как у афинян, которые также не нуждались в газетах, и жили, учились, мудрствовали и умственно наслаждались в портиках и на площадях. Так и в этих двух салонах можно было запастись сведениями о всех вопросах дня, начиная от политической брошюры и парламентской речи французского или английского оратора и кончая романом или драматическим

творением одного из любимцев той литературной эпохи. Было тут обозрение и текущих событий, был и premier Petersbourg ( весь цвет петербурга, франц.) с суждениями своими, а иногда с осуждениями, был и лёгкий фельетон, нравописательный и живописный. А что всего лучше, — эта всемирная, изустная, разговорная газета из-давалась по направлению и под редакцией двух любезных и милых женщин. Подобных имздателей не скоро найдёшь. А какая была непринуждённость, терпимость, вежливая и себя и других уважающая свобода в этих разнообразных и разноречивых разговорах! Даже при выражении спорных мнений не было и слишком кипучих прений; это был мерный обмен мыслей, воззрений, оценок, система fra trade (свободная торговля, англ.) приложеная к разговору. Не то что в других областях, в которых задирчиво и пленительно господствует запретительная система, прежде, чем выпустить свой товар, свою мысль, справляешься с тарифом; везде застава и таможни.

В числе сердечных качеств, отличавших Елизавету Михайловну Хитрово, едва ли не первое место должно занять, что она была неизменный, твёрдый, безусловный друг друзей своих.

Друзей своих любить не мудрено, но в ней дружба возвышалась до степени доблести. Где и когда нужно было, она за них раьовала, отстаивала их, не жалея себя, не опасаясь за себя неблагопориятных последствий, личных пожертвований от этой битвы не за себя, а за другого. Несчастная смерть Пушкина, окружённая печальною и загадочною обстановкою, породила много толков в петербургском обществе, она сделалась каким-то интернациональным вопросом. Вообще жалели о жертве, но были и такие, которые прибегали к обстоятельствам, облегчающим вину виновника этой смерти, и если не совершенно оправдывали его (или, правильнее, их), то были за тех ходатаями. Известно, что тут замешано было и дипломатическое лицо. Тайна безымянных писем, этого пролога трагической катастрофы, ещ не достаточно разъяснена. Есть подозрения почти неопровержимые, но нет положительных юридических улик. Хотя Елизавета Михайловна по семейным связям своим и приникала к дипломатической среде, но здесь она безусловно и исключительно была на русской стороне. В Пушкине глубоко



**Д.Ф.Тызенгаўз-Фікельмон**
**Літаграфія з малюнка**
**К.Агрыколы**
**1838 г.**

оплакивала друга и славу России.

Помню, что при возвращении из-за границы в Петербург, при выходе моём из парохода не берег, узнал я о недавней кончине Елизаветы Михайловны. Грустно было первое впечатление, приветствовавшее меня на родине: не стало у меня внимательной, доброй приятельницы; вырвано главное звено, которым держалась золотая цепь, связывавшая сочувственный и дружеский кружок; опустел, замер один из петербургских салонов, и так уже редких в то время."

*П.А.Вяземский. Старая записная книжка.*

Фёдар Тызенгаўз і Елізавета мелі дваіх дзяцей: Кацю і Дар'ю, названых у гонар сясцёр маці - малодшых дачок Кутузава. Першыя 10 гадоў пражылі ў маці Фердынанда ў Эстляндыі. Атрымалі выдатную па еўрапейскіх мерках адукацыю: бліскучае веданне некалькіх моў, гісторыі і сучаснай палітыкі. Тонка разумелі музыку і тэатр.

Тызенгаўз Дар'я (Даратэя) Фёдараўна (1804-1863 гг.), фота 2. Знакамітая "Доллі" Прыяцелька "вялікіх": Аляксандра І, абедзвюх рускіх імператрыц, герцагаў. Сяброўка П.Вяземскага, А.С.Пушкіна, В.Жукоўскага, Карла Брулова. Яе салоны ў Венецыі і пецярбургу мелі значны ўплыў на літаратурнае і грамадскае жыццё. Графіня, прыгажуня. А.С.Паўлішчаў лічыў яе здольнай супернічаць прыгажосцю з самой Наталляй Мікалаеўнай Ланской (Пушкінай). Выйшла замуж у 16 гадоў.

Муж - ваенны, дыпламат і пісьменнік К.-Л.Фікельмон, быў на 27 гадоў старэйшы за яе. У 20-х гадах з'яўляўся аўстрыйскім прадстаўніком у Флврэнцыі. Аднак хутка пасля таго, як маці і старэйшая сястра яго жонкі паехалі на радзіму, адбылося яго прызначэнне на пост аўстрыйскага пасланніка ў Пецярбургу.

У ліпені 1829 г. Доллі пераехала ў Расію і зачаравала вышэйшы пецярбургскі свет. Яшчэ калі ў 1823 г. яна разам з маці пабыла ў Маскве, яе прыезд выклікаў наступную заўвагу П.А.Вяземскага ў лісце да А.І.Тургенева: "...Все бегают за ней; в саду дамы и мужчины толпятся вокруг неё... она в обращении очень мила".

Пасольства размясцілася ў асабняку Салтыковых (Дварцовая набережная, 4. Цяпер тут - Інстытут культуры) і ў паўночнай сталіцы з'явіўся салон, які не меў роўных па бліскучым падборы гасцей і чароўнасці гаспадыні. Аднак у адрозненне ад сваёй маці ні рускай мовы і літаратуры, ні рускіх звычаяў Доллі Фікельмон, выпраўляючыся ў Пецярбург, амаль не ведала. Яе настаўнікам стаў знаёмы Пушкіна і Дэльвіга А.М.Сомаў.

Адным з епршых кантактаў Фікельмон і Пушкіна была паездка ў маскарадных касцюмах да некалькіх пецярбургскіх дамаў 12 студзеня 1830 г. Пасля гэтага сустракаліся даволі часта - у салонах, на балах і раутах. У красавіку таго ж года яны ўжо былі знаёмыя нагэтулькі блізка, што Доллі напісала паехаўшаму ў Маскву дзеля заручынаў і наступнай жаніцьбы паэту і атрымала сяброўскі адказ. Вярнуўшыся ў Пецярбург 18 мая 1831 г. з Наталляй Мікалаеўнай Пушкін тыдзень прабыў у горадзе і на ўсё лета пераехаў у Царскае Сяло. За гэты час Дар'я Фёдараўна ўбачыла абранніцу паэта. Яе лісты аб уражанні, выкліканым гэтым, многія пушкіністы лічаць дзіўным і адзіным у сваім родзе прадбачаннем.

25 мая 1831 года яна пісала да Вяземскага: "Пушкин к нам приехал к нашей большой радости. Я нахожу, что он в этот раз ещё любезнее; мне кажется, что я в уме его отмечаю серьёзный оттенок, который ему и подходящ. Жена его прекрасное создание, но это меланхолическое и тихое выражение похоже на предчувствие несчастья у такой молодой особы. Физиономия мужа и жены не предсказывают ни спокойствия. Ни тихой радости в будущем. У Пушкина видны все порывы страстей; у жены вся меланхолия отречения от себя.

Впрочем, я видела эту красивую женщину ещё только один раз". У снежні таго ж году, калі Доллі пазнаёмілася з жонкаю паэта бліжэй, уражанне яе стала толькі мацнейшым: "Пушкин у вас в Москве, жена его хороша, хороша, хороша! Но страдальческое выражение её лба заставляет меня трепетать за её будущность".Цяпер, калі вядомы наступныя, абставіны, усе заўвагі яе, на самой - справе, падаюцца прароцтвам.

Але якімі ж усё-такі былі адносіны Пушкіна і Дар'і Фікельмон? Ці абмяжоўваліся яны абмеркаваннем у салоне аўстрыйскага пасла навін палітыкі і літаратуры? Ці дадавалася да таго толькі спачувальная сімпатыя графіні да першага паэта і да аднаго з разумнейшых людзей Расіі? Ці было нешта большае, на што рабілі намёкі або прама сцвярджалі біёграфы Пушкіна.

У 1922 г. М.А.Цяўлоўскі надрукаваў запісы гутарак П.І.Барценева з Паўлам Вайновічам Нашчокіным, з якіх можна зрабіць вывад, што Пушкін паведамляў бліжэйшаму сябру аб любоўнай прыгодзе, быццам быўшай у яго з Доллі ў аўстрыйскім пасольстве.

У далейшым пушкіністы не раз "ламалі коп'і", імкнучыся разгадаць, у якой ступені сапраўдны расказ Нашчокіна-Барценева і наколькі ён належыць самому Пушкіну. Дарэчы сустрэча Германа і графіні ў "Пікавай даме" адбываецца менавіта ў асабняку аўстрыйскага пасольства. Існуюць меркаванні аб тым, што Доллі Фікельмон з'явілася прататыпам "молодой величавой красавицы" у "Египетских ночах", а таксама "княгіні Д." У накідзе "Мы проводили вечер на даче". Такім чынам, донжуанскі спі Пушкіна можа папоўніцца яшчэ адной дамай.

У 1838 г. Дар'я Фёдараўна Фікельмон назаўсёды пакінула Расію. Муж яе да 1840 г. заставаўся ў Пецярбургу, затым займаў розныя дыпламатычныя і міністэрскія пасады ў Аўстрыі і Італіі. У рэшце рэшт адданасць Расіі каштавала яму кар'еры: антыруская пазіцыя ўрада аўстрыі прымусіла пайсці ў адстаўку. У 1855 г. Фікельмоны канчаткова пасяліліся ў Венецыі, дзе Дар'я фёдараўна і памерла за некалькі месяцаў да смерці ў Пецярбургу Наталлі Мікалаеўны Пушкінай.

З перапіскі Д.Ф.Фікельмон і А.С.Пушкіна:

"Графиня,

с вашей стороны очень жестоко быть столь обаятельной и заставлять столь живо ощущать горесть оставаться вдали от вашего салона. Ради бога, не думайте, однако, графиня, что потребовалось неожиданное счастье получить от вас письмо, чтоб сожалеть о местах, которые вы украшаете, я надеюсь, что нездоровье вашей матушки не имело последствий и не причинило вам беспокойства. Я хотел бы уже быть у ваших ног и благодарить вас за ваше любезное воспоминание, но сроки моего возвращения очень неопределённы.

Разрешите ли сказать вам, графиня, что ваши упрёки настолько же несправедливы, насколько ваше письмо обольстительно. Поверьте, что я останусь всегда самым искренним поклонником вашего очарования, столь простого,вашего разговора, столь приветливого и столь увлекательного, хотя вы имеете несчастье быть самой блистательной из наших светских дам.

Примите ещё раз, графиня, дань моей благодарности и моего глубокого почтения.(Франц.)

*Пушкин - Д.Ф.Фикельмон. 25 апреля 1830 г.*

Кацярына Фёдараўна Тызенгаўз (1803-1888 гг.) у нейкай ступені апынулася "на другім плане", нібы адцесненая грамадскім становішчам маці і прыгажосцю сястры. Графіня, камер-фрэйліна з 1833 году, з гэтага часу жыла ў Зімнім палацы. Была ў вельмі добрых адносінах з Імператрыцай Аляксандрай Фёдараўнай, жонкай Мікалая І (цараваў у 1825-1855 гг).

Сучаснікі адзначалі, што "...длительные сердечные отношения с императрицей не повлияли на её характер, и при внешней важности особы это было доброе существо с лёгкими и невинными претензиями на роль умной женщины. Няня Тизенгаузен очень хорошо умеет ходить за (царскими) детьми, умеет с ними говорить, мягка и терпелива, аккуратна и усердна, на неё можно положиться, что так редко при дворе".

Як і яе маці, з вясны 1827 году знаёмая з А.С.Пушкиным. 1830 год пецярбургская эліта распачынала касцюміраваным балем у анічкавым палацы. Кожная "маска" павінна была звярнуцца да імператарскай пары з вершамі, спецыяльна напісанымі для гэтай нагоды. Фрэйліна Тызенгаўз выбрала для балю касцюм цыклопа і звярнулася да Пушкіна за дапамогай, тым больш, што рускай мовай яна тады валодала яшчэ не вельмі. Паэт склаў для яе верш "Цыклоп":

*Язык и ум теряя разом,*
*Гляжу на вас единым глазом:*
*Единый глаз в главе моей.*
*Когда б судьбы того хотели,*
*Когда б имел я сто очей,*
*То все бы сто на вас глядели.*

Верш, адзначаны непаўторным пушкінскім майстэрствам, вымаўлены К.Ф.Тызенгаўз і яе касцюм мелі шумны поспех.

Замуж не выйшла. Адзіным блізкім чалавекам быў выхаванец слаўнага "трыо" (так называлі Елізавету Міхайлаўну з дочкамі)Фелікс Эльстан. Сямігадовым хлапчуком яго прывезлі ў Расію ў 1827 г. Ім спачатку займалася маці Кацярыны Фёдараўны, а пасля яе смерці - сама. Пра яго хадзілі самыярозныя чуткі. Па адной з версій, гэта быў сын Екацярыны Фёдараўны ад прускага караля Фрыдрыха-Вільгельма III. Па стаўленні імператарскага двара (імператрыца Аляксандра Фёдараўна была дачкой гэтага караля) да Кацярыны Фёдараўны і Эльстана ў час яго кар'еры, гэтае меркаванне падобнае да праўды.

***І.П.Зямчонак***



# СЛЁЗЫ ЛЯ БІРЖЫ ПРАЦЫ

Як кажуць, далёка хадзіць не трэба, каб пераканацца, як цяжка стала жыць многім жыхарам глыбінкі. Вось і ля ладнага асабнячка пад шыльдай "Пастаўскі раённы цэнтр занятасці насельніцтва" можна ледзь не штодзённа бачыць натоўп абяздоленых людзей. Асабліва шмат іх збіраецца, калі выпадае рэдкая мажлівасць нешта падзарабіць, бо беспрацоўе ў гэтым мястэчку адно з самых высокіх па краіне. Лік страціўшых працу ўпарта трымаецца ля адзнакі дзвюх тысячаў чалавек, і надзеяў на змены ў лепшы бок пакуль не прадбачыцца. Таму калі адзін з мясцовых калгасаў запрасіў да сябе беспрацоўных дапамагчы з ручной падкормкай азіміны, жадаючых набралася шмат.

Пайшла пагалоска. што з людзьмі разлічваюцца ў той самы дзень і амаль што пад 150 тыс.рублёў. На трэці дзень пастаянная група, якая выязджала ў гаспадарку, папрасіла вадзіцеля забраць іх у іншым месцы, далей ад цэнтра занятасці. што той і зрабіў. Паколькі многія беспрацоўныя дарэмна чакалі калгаснага аўтобуса, яны паскардзіліся на гэта, а таксама а бурыліся, што на работы выязджаюць людзі, якія не стаяць на ўліку ў цэнтры занятасці. Зразумела, перапала за "самадзейнасць" кіраўніку гаспадаркі, і на наступную раніцу вадзіцель нікога не пускаў у салон. Чакаючы прыбыцця работніка біржы працы.Апошняя хутка з'явілася і заявіла. Што на працу паедуць толькі 30 афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных, якіх сабралася ледзь не ў два разы болей.

Як звычайна, натоўп ірвануўся да дзвярэй і ледзь не вырваў іх з кабіны. У маленькі аўтобус набілася як селядцоў у бочцы, і, самае цікавае, усё ж здолелі ўлезці некалькі чалавек, што не мелі ніякіх адносінаў да цэнтра занятасці, які выдаткоўваў паліва для гэтых паездак на поле. "Глядзіце, зноў залезлз "дзікія!"-пачуліся абураныя галасы. Супрацоўніца цэнтра загадала гэтым людзям вылазіць з аўтобуса, грозячы, што ў іншым выпадку аўтобус нікуды не пойдзе. Хвілін дзесяць доўжылася гэтае процістаянне на нервах, пакуль прадстаўнік службы занятасці не прыгразіла адвесці ўсіх у міліцыю і разабрацца з "парушальнікамі" парадку. Некалькі жанчын пачалі плакаць, у роспачы расказваючы пра галодных дзетак, даўгі, адсутнасць сродкаў на існаванне. Не вытрывала і яшчэ адна іх сяброўка па няшчасці і проста ў вочы заявіла: "Мая ты мілачка, перастань з людзей здзекавацца. Я з двума дыпломамі засталася без працы і як юрыст, заяўляю ўсім: нічога мы не парушылі. А яшчэ трэба разабрацца, якім чынам вы тут, аграном па адукацыі, апынуліся, калі спецыялістаў на вёсцы не хапае і ці не чужое месца тут займаеце?" Гэтага супрацоўніца цэнтра не вытрывала і пайшла ў свой кабінет. Кіроўца завёў рухавік і павёз людзей на работу ў поле. Настрой у тых, хто ехаў падзарабіць і каму гэта не выпала, быў канчаткова сапсаваны. Усе пачувалі сябе аднолькава

пакрыўджанымі і зняважанымі. Расказваюць, што праз некалькі хвілін двое міліцыянтаў каля цэнтра занятасці ўсё ж з'явіліся, але даганяць калгасны аўтобус не сталі...

# ЗА КРАТЫ – ПА ЎЛАСНАМУ ВЫБАРУ

Тое, што займацца прыватным бізнесам, а асабліва рыначным і дробнаалтовым гандлем, у нашай краіне стала заняткам цяжкім і рызыкоўным, я ведаў. Але не ведаў, што не толькі псіхалагічная, але самая сапраўдная вайна вядзецца супраць дробнага прадпрымальніка. Мой знаёмы, пасля таго, як скарацілі на працы, вось ужо чатыры гады займаецца гандлёва-закупачнай дзейнасцю. Дык за гэты час не было ў яго ніводнага месяца, каб не плаціў штраф за нейкія там парушэнні, выдуманыя дзяржавай. А нядаўна наогул трапіў за краты тэрмінам на 10 сутак арышту, праўда, якія сам і выбраў. Лепш адсядзець, чым плаціць штраф у 150 мінімальных заробкаў. Але пра ўсё па парадку.

## *Жыццё, як яно ёсць*

Накірунак ягонай дзейнасці - строга гандаль парфумай, галантарэяю а таксама рознымі гаспадарчымі таварамі і посудам. Набіў, здаецца, руку ў гэтай сваёй новай вымушанай справе. Чатыры разы на тыдзень займаецца гандлем на рынках трох суседніх раёнаў. Задумаў асвойтацца і ў Шаркоўшчынскім. І з першага ж разу патрапіў пад сур'ёзныя непрыемнасці. Да навічкоў на рынку заўжды ставяцца падазрона. Але тым разам гандаль ішоў нядрэнна, бо тавары высокай якасці прапаноўваў, таннейшыя, чым у крамах, закупляў іх у Маскве, за даляры, вядома, бо беларускія зайчыкі ніхто там усур'ёз за грошы не лічыць. І ўжо на сканчэнні працы расслабіўся, згадзіўся прадаць жанчынам два наборы сучаснага посуду за 30 даляраў. У гэты момант як з-пад зямлі выраслі супрацоўнікі па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ў цывільным. Забралі ў міліцыю, склалі акт, канфіскавалі выручку, тыя ж няшчасныя 30 даляраў, рэшту непрададзенага тавару. Праўда, "злітаваліся" з новаяўленага "злачынцы", прапанавалі яму выбраць меру пакарання і нават дазволілі з'ездзіць дадому за цёплымі рэчамі. Камера Шаркоўшчынскага аддзела міліцыі папярэдняга зняволення нічым не адрознівалася ад іншых. Хіба што новы зняволены з'явіўся ў ёй прымусова-добраахвотна. Паводзіў ён сябе годна, дысцыпліну не парушаў і ... ніводнага разу не выйшаў на працу. Злаваліся вартаўнікі, пагражалі пабіць за гэта. Але прадпрымальнік не збаяўся, адседзеў і выйшаў на волю. працягвае займацца бізнесам у спецыфічных беларускіх умовах. Толькі неяк сумна і прыкра стала пасля ягонага аповяду. У якой жа дзікай краіне мы ўсё яшчэ жывем.

***Уладзімір Шык.***

# І СНІЦЦА МНЕ ТРАВА ЛЯ ДОМА

## альбо чаму чацвёра дзетак так і не змаглі зноў адчуць цеплыню роднай хаты.

Большасць не толькі дарослых тады, але і хлопчыкі і дзяўчынкі, дзяцінства якіх прыпала на чорныя гады масавых рэпрэсій, добра ведаюць, як невыносна жыць з прадчуваннем бяды. Гора і слёзы прыходзілі ў іх сем'і звычайна сярод начы. Калі раздаваўся страшны стук у вокны альбо дзверы.

...Ішоў красавік ужо далёкага ад нас 1952 года. Буяла, набіраючыся сілы, чарговая вясна. Некалькі дзён заставалася да светлага і радаснага свята Уваскрасення Хрыстовага, калі каліўночы ля ладнай сялянскай хаты Вештартаў з вёскі стары двор тагачаснага Дунілавіцкага раўна з'явіліся міліцыянты. Яны пастукалі, загадалі адчыніць, а ў хаце далі каманду "собираться с вещичками". У далёкую дарогу прымусілі выправіцца і 99-гадовага дзядулю Івана, што жыў разам, вельмі набожнага і цяглага да працы чалавека.

Менавіта ён ажыццявіў спрадвечную мару беларускіх сялян, купіў яшчэ пры даваеннай Польшчы ладны кавалак зямлі, давёў яе да ладу і перадаў свайму сыну пятру. Надзел ужо ў 1940 годзе быў абрэзаны бальшавікамі з 31-го да пятнаццаці гектараў зямлі. Увайшоўшы ў самую маладую сілу, гаспадар не мог ведаць, што праз некалькі гадоў пасля вайны карны меч зноў абрынецца на галовы лепшых вяскоўцоў. Аднеслі 23 лютага 1948 года Пятра Вештарта да "ворагаў" савецкага сялянства. Ягоную гаспадарку адпаведна залічылі да "кулацкіх" для падатковага абкладання, а ў аператыўна складзенай і зацверджанай рашэннем райвыканкама характарыстыцы запісалі, што ў ёй "пастаянна працаваў Зыгфрыд Ясінскі, усходняя наёмніца Маруся, сезонна Антон Шырко і іншыя".

Праўда, адказныя таварышы і словам не памянулі, што побач з імі, не пакладаючы рук, працаваў і сам гаспадар. Для савецкіх уладаў крамолай было ўжо тое, што што сям'я мела ворнай зямлі на той час 4, 8 га, два гектары лесу, каня, карову, цялушку, 6 авечак, сад са 120 дрэў, 13 вулляў пчол, і, што зусім недаравальна, конную малатарню. Каб неяк справіцца з драконаўскімі падаткамі, давялося на сваю бяду Пятру Вештарту прадаць адзінага каня, а значыць не мець магчымасці выканаць даведзены неўзабаве план лесавывазак. Хаваўся ад пераследу ў Вільні, але быў там знойдзены энкавэдыстамі і ў ліпені 1949 г. асуджаны на 10 гадоў за зрыў плану лесавывазак. Не прынялі да ведама ўлады і тое, што сям'я гэтага "кулака" хавала ў сябе, рызыкуючы жыццём, двух збітых і параненых савецкіх лётчыкаў. Але напісаная імі падзяка-даведка, на жаль. згубілася недзе ў віхуры вайны і яе не змаглі прадставіць на судовае паседжанне. Хоць наўрад ці яна магла што-небудзь змяніць у лёсе чалавека, вызначанага сістэмай на пакуты.

Вось і засталіся чацвёра маленькіх дзяцей без бацькі, а ўвесь клопат пра сям'ю давялося ўзваліць на свае плечы матулі. Адчувала яна небяспеку з боку савецкіх уладаў, спрабавала развітацца з зямлёю, але гэта не дапамагала. Штогод адносілі сям'ю да "кулакоў", абкладалі непамернымі падаткамі. Ужо і пчол распрадалі, і скаціны амаль не засталося, і зямлі засталося толькі 15 "сотак", а ад людзей не маглі адчапіцца. Ім адмаўлялі ў прыёме на працу ў калгас. Мясцовы старшыня Савін, добры чалавек, хоць і не тутэйшы, раіў ім адсюль ад бяды з'ехаць. Але куды дзенешся, маючы чацвёра на руках ды без бацькі. І хоць у жніўні 1951 года Марыю Вештарт чарговы раз прылічылі да "варожых элементаў", вырашылі застацца, спадзеючыся на Боскую спагаду.

Але бальшавіцкая дыктатура нават у апошнія месяцы жыцця Сталіна не ведала ні жалю, ні сумлення. У тую страшную красавіцкую ноч Вештартам было аб'яўлена аб высяленні сям'і ў адміністрацыйным парадку і канфіскацыі раней апісанай маёмасці. "Мы былі падрыхтаваныя да гэтага моманту, -- са слязьмі на вачах расказала мне цяпер пенсіянерка, а тады проста гарэзлівая дзяўчынка Нінка, -- і не плакалі асабліва. Толькі неяк не па сабе было, што ў кожным акне стаяў узброены міліцыянер, каб мы не надумалі раптам куды сярод ночы збегчы. Асабліва шкада было старэнькага дзядулю, які добра не мог зразумець, чаго ад нас хочуць гэтыя ўзброеныя людзі. Ён папрасіў узяць з сабой у дарогу толькі Біблію, што, на здзіўленне, яму дазволілі. Дзед быў нездаровы, і, калі машина ехала па рытвінах, войкаў ад болю. Мне так стала яго шкада, калі на старога прыкрыкнуў аховец, што ад крыўды ўкусіла сабе руку...."

Зноў пацяклі слёзы па шчацэ маёй субяседніцы, і крыху счакаўшы, даўшы ёй супакоіцца, паведаміў Ніне Пятроўне, што ў той год у гэтых мясцінах такім чынам было рэпрэсіравана яшчэ больш 60 сем'яў. Гэта лічба спачатку нават здзівіла жанчыну, а потым яна з ёй пагадзілася і прыгадала, што двое сутак на чыгуначнай станцыі ў Глыбокім падвозілі і грузілі ў вагоны, прызначаныя для перавозкі жывёлы, няшчасныя сем'і. Другі раз пайшлі насустрач дзядулю, і начальнік поезда згадзіўся пакінуць старога яго родным па брату з гэтага мястэчка. Толькі нядоўга пажыў дзед у Глыбокім, вярнуўся ў апусцелы дом, дзе і пражыў яшчэ з дапамогай суседзяў два гады. Ён усё чакаў вяртання ўнукаў і адкладваў ім пад ложак гасцінцы, якіх так і не паспрабавалі дзеці.

Беларускі "кулацкі" эшалон поўз тым часам доўга на ўсход, у самае пекла Кіраўскага раёна Усходне-Казахстанскай вобласці. Нямала нашых землякоў загінула ў дарозе, бо ніякай лекарскай дапамогі там не прадугледжвалася. Трапілі ў дзікі, суровы, амаль неабжыты край на "перавыхаванне". Тут трэба было таксама выжыць, бо лютавалі такія хваробы, як малярыя, дызентырыя. Праз яе, дарэчы, прайшлі ўседзеці з гэтай сям'і. І каб не самаахвярнае сэрца іх матулі, хто ведае, ці засталіся б яны жыць на гэтым свеце. Толькі на ўсё далейшае жыццё пакінула хвароба свой адбітак, і час ад часу нагадвае пра сябе болямі ў жываце.

Але ж тады было нават цікава, куды яны трапілі. Колькі побач незвычайнага: спякотная гарачыня, вярблюды, каналы, бавоўна і арыкі. Везлі іх са станцыі прызначэння на валах, уразіла, колькі сабралі тут розных людзей, з цікавасцю прыглядаліся беларускія дзеці да паселеных побач немцаў, карэйцаў, грэкаў, грузінаў (іх, дарэчы, неўзабаве вярнулі на радзіму), балгараў, украінцаў. А якімі загадкавымі і таямнічымі здаваліся дзецям казахі! Толькі няволя нават у паслабленым варыянце ўсё ж заставалася няволяй. На кожным мастку, на дарогах



дзяжурылі ўзброеныя вайскоўцы, доўгі час без пропуску нават у бліжэйшы райцэнтр не пускалі. Туга па сваёй радзіме ўвесь час заставалася, часта снілася трава пад роднай хатай, лес, возера. Калі па святочных днях на беразе канала хлопцы з-пад Пінску пачыналі граць на гармоніках, дзяўчаты з Полаччыны зацягваліся роднымі песнямі. І ліліся з вачэй матуль маўклівыя слёзы.

Колькі было радасці, калі праз два гады вярнуўся сюды ў час хрушчоўскай адлігі іх бацька. Толькі неўзабаве трагічна загінуў на чужой зямлі Пётр Вештарт. Калші вазілі дровы разам з іншымі, заўсёды шчыры да працы, у час перакуру спрабаваў адзін скінуць з машыны два апошнія бервяны, але не разлічыў свае сілы. Ён памёр у сельскай бальніцы, дзе якраз працавала санітаркай дачушка Ніначка. Перад вечным развітаннем бацька пазнаў яе і толькі пашкадаваў, што яшчэ нямала цяжкасцей прыйдзецца на галаву дзетак без іх таты.

І сапраўды было так. Праўда, праз 7 гадоў незаконнай, як афіцыйна цяпер прызнана, высылкі, гэтай і іншым беларускім сем'ям было дазволена вярнуцца ў родныя мясціны, але без права атрымання маёмасці. Вагаліся, ці варта, але старэйшая дачка, выйшаўшы да гэтага часу замуж, пераканала ўсіх ехаць на Беларусь. Толькі ў родны дом вештартам так і не далі магчымасці вярнуцца. Выручылі на першым часе добрыя суседзі Шыркі, Кучыцы.

Варашкевічы, якія прыюцілі сям'ю "кулакоў". Памятаеце, адзін з іх, Антон Шырко, пасля вайны ў час пільніцы рабіў у гаспадарцы Вештарта. Вяскоўцы добра ведалі, што ніякім "крывасмокам" сусед не быў і не мог быць.

Толькі нашы ўлады доўга не маглі гэтага зразумець. Толькі ў 1992 годзе рашэннем УУС Віцебскага аблвыканкама гэтая сям'я была рэабілітаваная. А праз два гады, 22 снежня 1994 года ўжо абласная камісія па аказанні садзейнічання ў забеспячэнні правоў ахвяраў палітычных рэпрэсій прымае рашэнне вярнуць дачцэ незаконна забраную маёмасць - іх родны дом. Каб дабіцца справядлівасці, сёння ў нашай краіне кожнаму чалавеку даводзіцца абысці дзесяткі службовых кабінетаў, сабраць безліч паперак і даведак. У поўнай ступені прыйшлося зведаць гэтага ліха і Ніне Пятроўне.

Напачатку доўга вадзілі яе за нос у саўгасе "Старадворскі", які стаў правапераемнікам пасляваеннай гаспадаркі. Ранейшае кіраўніцтва саўгаса толькі абяцала вярнуць іх дом, а на самой справе толькі цягнула час. Больш таго, ведаючы аб неабходнасці вяртання маёмасці, дазволілі прыватызаваць дом жыўіай у ім сям'і. Нічога не заставалася Н.П.Колас, як звярнуцца летась у суд Пастаўскага раёна, дакладней кажучы, з адпаведным іскам па яе заяве выступіла мясцовая пракуратура. І тут трэба аддаць належнае толькі прызначанаму дырэктару саўгаса І.Дэмбоўскаму, які пайшоў насустрач пацярпелым людзям. Яны, параіўшыся разам, ведаючы аб цяжкім фінансавым стане гаспадаркі, нават даравалі ёй 50 млн руб. і ў рашаючым судовым паседжанні дасягнулі згоды, што саўгас верне ім 80 млн руб.

У дзень, калі была пералічаная другая частка неабходнай сумы, першым даведаўшыся пра гэта, з добрай весткай наведаўся на кватэру Ніны Пятроўны. Да сястры якраз завітаў малодшы брат Сяргей, які неўзабаве стане пенсіянерам. Асаблівай радасці маё паведамленне не выклікала, хутчэй толькі слёзы палёгкі і светлай горычы, што пастаўлена пэўная кропка у працяглай гісторыі іх пасляваенных прыгод. А потым пайшлі ўспаміны пра тое жыццё на чужыне, калі ў сям'і ні за што адабралі родны дом. Па-сапраўднаму шкада гэтых, як падалося, добрых і шчырых людзей, якія, нягледзячы на выпрабаванні лёсу, не зачарсцвелі душой, жывуць у ладзе з не скардзяцца на жыццё. А ў іх жа зараз і пенсіі зусім мізэрныя. І здароўе часам падводзіць. І нават нешматлікія ільготы ахвярам рэпрэсій прыпыненыя прэзідэнцкім указам.

Не падымаецца ў мяне рука напісаць шчаслівым канец гэтай гісторыі. Тым больш, калі ведаеш, што ў гэтым райцэнтры яшчэ некалькі сем'яў пакуль беспаспяхова спрабуюць дабіцца вяртання незаконна адабранай у той ліхі час маёмасці іх бацькоў. Па-сутнасці, наша дзяржава так і не павінілася перад сотнямі тысяч пакрыўджаных, замучаных, абабраных маральна і матэрыяльна. Калі ўсе мы змірымся з гэтым, забудзем сапраўдную гісторыю краю, чорны цень новага ГУЛАГу, перспектыва рабскага існавання можа зноў стаць нашай рэальнасцю.

***Уладзімір Шык***



***Гэты артыкул у свой час не змог убачыць свет ні ў адным з перыядычных выданняў. "Сумежжа" дае такую магчымасць.***

# ВЫБАРЫ ЦІ ВЫБАРАЧНАСЦЬ?

Спачатку быў адзін, потым другі званок з Глыбокага. Суразмоўцы настойліва раілі пацікавіцца выбарамі, якія прайшлі ў нядзелю, 16 лістапада ў раённым цэнтры Глыбокае Віцебскай вобласці. Стаўленне да ананімаў у нас досыць адназначнае. Але ў час камандзіроўкі ў райцэнтр вырашыў пацікавіцца і гэтым пытаннем. Зразумела, першае, што можа даць інфармацыю - гэта раённая газета, "Веснік Глыбоччыны", заснавальнікамі якога і з'яўляюцца раённы выканаўчы камітэт, раённы Савет дэпутатаў, а таксама калектыў рэдакцыі. І вось тут паведамленне на першай старонцы газеты ад 19 лістапада насцярожыла. Трэба прывесці яго цалкам: "Дэпутат у абласны Савет абраны. 16 лістапада адбыліся дадатковыя паўторныя выбары ў абласны савет дэпутутаў. Па Глыбоцкай выбарчай акрузе №11 балаціраваўся першы сакратар Глыбоцкага раённага камітэта Беларускага патрыятычнага саюза моладзі Сяргей Альбертавіч Дзёмін. Большасцю выбаршчыкаў, якія прыйшлі ў гэты дзень на гарадскія выбарчыя ўчасткі, Сяргей Дзёмін абраны дэпутатам у абласны Савет дэпутатаў па Глыбоцкай выбарчай акрузе №11".

Подпісу няма, але зразумела, што гэта паведамленне паступіла, як кажуць, з афіцыйных крыніц. Не рэдакцыя правярала вынікі галасавання. Але адкуль такая няпэўнасць? Што такое "большасць"? Мы ад часоў развітога сацыялізму прывыклі да дакладных лічбаў у такой тонкай справе, як выбары. Няхай тады было 99.9%, але ж лічба называлася канкрэтная. Больш таго, за гады, якія прыйшлі пасля развітога сацыялізму, мы досыць дасканала авалодалі механікай перадвыбарчых і выбарчых дзеяў, добра разумеем значэнне нават дзесятых доляў працэнтаю А тут сарамяжна - "большасць".

Магчыма, гэта папярэднія звесткі. Але ж гэта не тэлекана, які аб'яўляе гэтыя самыя папярэднія звесткі ў дзень выбараў. Па-другое, давайце разбярэмся. Як запэўніла мяне старшыня акруговай выбарчай камісіі Вера Глушонак, дадзеныя з участковых выбарчых камісій паступілі да іх ужо ўначы, галасаванне скончылася ў 22 гадзіны 16 лістапада. У панядзелак, 17 лістапада ў адзінаццаць гадзін засядала акруговая выбарчая камісія, якая падвяла вынікі выбараў. У галасаванні прыняло ўдзел больш за 28% выбаршчыкаў, за кандыдата ў дэпутаты, першага сакратара Глыбоцкага раённага камітэту БПСМ Сяргея Дзёміна прагаласавалі больш за 82% ад прыйшоўшых на выбарчыя ўчасткі. У аўторак, 18 лістапада, пратакол і бюлетэні былі раніцой адпраўленыя ў Віцебск. Чаму ж у раённай газеце на наступны дзень з'яўляецца такое цьмянае паведамленне? Ад будынкаў райвыканкама і раённага Савета да рэдакцыі некалькі соцень метраў. Я разумею. Што ў наступным нумары "Весніка Глыбоччыны" канкрэтане і яснае паведамленне аб выніках выбараў надрукаванае будзе. Але, здаецца мне, што менавіта прыезд карэспандэнта рэспубліканскай газеты адыграе тут не апошнюю ролю.

А паколькі апошні акорд выбараў падаўся мне досыць дзіўным, вырашыў пацікавіцца і ходам усёй перадвыбарчай кампаніі. І зноў сутыкнуўся з фактамі не то паспешлівасці, не то абыякавасці тых. Хто павіне быў арганізаваць, правесці выбары, забяспечыць іх поўную галоснасць і дэмакратычнасць.

Глыбоцкая выбарчая акруга №11, гэта, уласна кажучы. Увесь райцэнтр. Не мела дэпутата ў абласным Савеце з 1995 года. Тады, у 1995-м, выбары не адбыліся, не прыйшло на выбарчыя ўчасткі належнай колькасці выбаршчыкаў. У лістападзе па гэтай акрузе прайшлі паўторныя выбары, ды два кандыдаты не набралі па патрэбнай колькасці галасоў. І вось 22 мая гэтага года было прынятае рашэнне аб правядзенні дадатковых паўторных выбараў у мясцовыя саветы вобласці, у тым ліку і ў абласны Савет па Глыбоцкай выбарчай акрузе №11.

Большасць актыўных выбаршчыкаў за мінулыя гады засвоілі асновы выбарчага працэсу: прызначаюцца выбары, акрэсліваюцца выбарчыя акругі, ствараюцца акруговыя, тэрытарыяльныя, участковыя выбарчыя камісіі, пачынаецца вылучэнне кандыдатаў, а далей, як і належыць, іх рэгістрацыя, рэгістрацыя даверанных асобаў і груп падтрымкі, сустрэчы з выбаршчыкамі і г.д. Прычым законам прадугледжана, што кожная фаза перадвыбарчага працэсу строга абмежаваная па часе.

Так, вылучэнне кандыдатаў у дэпутуты па выбарчых акругах пачынаецца за 70 дзён, заканчваецца за 40 дзён да пачатку выбараў, а рэгістрацыя гэтых кандыдаиаў у выбарчых акругах адпаведнымі камісіямі пачынаецца за 40 дзён і заканчваецца за 30 дзён да выбараў.

Некаму, магчыма, гэта не даспадобы, але закон ёсць закон.

Што ж адбывалася ў Глыбокім?

Арыентавацца зноў жа даводзіцца на газету "Веснік Глыбоччыны", бо гэта адзіная афіцыйная газета, якая інфармуе насельніцтва раёна і горада ў прыватнасці аб тым, што будзе адбывацца ў яго палітычным жыцці. Газета ўплывовая, дастаткова сказаць, што яе наклад 6 тысяч экземпляраў пры насельніцтве ў раёне каля53 тысяч чалавек, у горадзе каля 18 тысяч чалавек. 15 кастрычніка 1997 года тут пад рубрыкай "У райкоме БПСМ" з'явіўся артыкул Н.Падрэз "Час выбраў нас". У ім аўтар сярод іншага паведамляе, што ўдзельнікі пленума райкома Беларускага патрыятычнага Саюза моладзі аднагалосна вылучылі кандыдатам у дэпутаты Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў па Глыбоцкай выбарчай акрузе №11 першага сакратара райкома БПСМ Сяргея Дзёміна. Я размаўляў з Наталляй Падрэз, справа ў тым, што ў артыкуле не ўказана, калі канкрэтна адбыўся гэты пленум. Наталля мяркуе, што, магчыма, 6 кастрычніка. Не змог зна йсці адказу на простае пытанне я і ў райкоме саюза. Але пагадзімся з меркаваннем аўтара артыкула: пленум адбыўся менавіта 6 кастрычніка, хоць газета паведаміла пра гэта са значным спазненнем. Гэта, дарэчы, вельмі важна, бо літаральна на наступны дзень вылучэнне кандыдата ў дэпутаты было б ужо незаконным, яно выпадала б з саракадзённага тэрміну да пачатку выбараў. Але артыкул гэты ідзе пад рубрыкай "У райкоме БПСМ", нічога агульнага з афіцыйным паведамленнем пра выбары тут няма.

Першае афіцыйнае паведамленне пра тое, што 16 лістапада адбудуцца дадатковыя паўторныя выбары ў абласны Савет дэпутатаў па Глыбоцкай выбарчай акрузе №11 з'яўляюцца ў раённай газеце 22 кастрычніка. Тут жа , у адной інфармацыі, паведамляецца, што 13 кастрычніка па гэтай акрузе зарэгістраваны ўжо кандыдатам у дэпутуты Сяргей Дзёмін. Праўда, хто вылучыў кандыдата - чытачу невядома. Але не гэта галоўнае. Галоўнае не тое, што ўпершыню пра выбары, што адбудуцца, афіцыйна паведамлена ўжо тады, калі не тое, што вылучаць, нават рэгістраваць кандыдатаў па закону нельга - сышлі прадугледжаныя тэрміны. Стала зразумела, што ананімныя званкі былі абгрунтаваныя. У Глыбокім пры дадатковых паўторных выбарах праяўлялася пэўная выбарачнасць - дзе паспешлівасць, а дзе і незразумелая замаруджанасць.

Я нічога не маю супраць кандыдата ў дэпутаты, а цяпер ужо дэпутата абласнога Савета Сяргея Дзёміна. Але павінен зазначыць: яму былі створаныя абсалютна ашчадныя ўмовы. Ён наканавана змагаўся за дэпутацкі мандат без канкурэнтаў. Такіх жа, пры поўным захаванні закона, магло быць нямала.

Мы крыху стаміліся ад выбараў-галасаванняў, мы мала ўжо верым дэпуттатам, якога б узроўню яны не былі. Яле рабіць з выбараў прафанацыю, гуляць толькі ў адны вароты - ці не прывядзе гэта да далейшай дэвальвацыі самога паняцця дэмакратыі? Калі яно яшчэ ў нас захавалася.

Ды і капейчыну лічыць трэба. У скрынях глыбачан напярэдадні выбараў з'яўляліся ўлёткі з заклікам галасаваць за С.Дзёміна. Надрукаваныя яны былі ў раённай друкарні. Заказ пакуль што не аплочаны, але ж заказчык - райвыканкам.

***Алесь Касцень***



# ТРАГЕДЫЯ, ЯКОЙ МАГЛО НЕ БЫЦЬ

У 1987 годзе ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай акругі разглядалася справа па абвінавачванню нейкага Мялешкі, ротнага 118-га паліцэйскага батальёна, створанага немцамі для барацьбы з партызанамі. Батальён складаўся ў асноўным з украінцаў. Але служылі ў ім і рускія, і беларусы. На сумленні мялешкі было шмат крывавых злачынставаў супраць мірных жыхароў, хзесяткі загубленых жыццяў. Ваенны трыбунал прысудзіў яму вышэйшую меру пакарання.

Нечакана ў ходзе следства зафігуравала яшчэ адно прозвішча - Грыгорыя Мікітавіча Васюры, ураджэнца Чаркаскай вобласці, былога начальніка штаба таго самага 118-га батальёна. Па словах Мялешкі, ён толькі выконваў загады, а аддаваў іх менавіта Васюра. І тут з вуснаў былога паліцая прагучала страшнае прызнанне: аказваецца, Хатынь - таксама справа рук былога начальніка штаба, які кіраваў дзеяннямі паліцаяў у той аперацыі.

Органы дзяржбяспекі даволі хутка знайшлі Васюру. Працаваў ён не кім-небудзь, а намеснікам дырэктара буйнога саўгаса Кіеўскай вобласці. Даволі лёгка ўжыўся ў вобраз ветэрана вайны, яго часта запрашалі ў госці піянеры, а ў адной з кіеўскіх ваенных вучэльняў ён лічыўся сярод ганаровых курсантаў.

Ніхто, відаць, і не здагадваўся, што ў першыя дні вайны старшы лейтэнант Чырвонай Арміі Грыгоры Васюра трапіў у палон, а затым добраахвотна перайшоў на службу да фашыстаў.

Закончыўшы ў 1942 годзе школу прапаршчыкаў пры так званым "Усходнім міністэрстве Германіі", ён быў пасланы ў паліцыю акупаванага Кіева, дзе хутка і стаў начальнікам штаба 118-га паліцэйскага батальёна. Гэта была зондэркаманда, разлічаная на знішчэнне партызан і мірных жыхароў. І камплектавалася яна былымі кадраввымі афіцэрамі і чырвонаармейцамі, якія добраахвотна згадзіліся супрацоўнічаць з акупантамі.

Праўда, пасля вайны Васюру схапілі, і ваенны трыбунал прысудзіў яму 25 гадоў строгага рэжыму. З іх ён прасядзеў толькі тры - выратавала амністыя. Эпізод з Хатынню ў першай крымінальнай справе не фігураваў. Васюра яго, вядома ж , хаваў як мог, а следства вялося паспешна, у духу тых часоў.

Спатрэбілася яшчэ больш за трыццаць гадоў, каб Васюра зноў трапіў на лаву падсудных і каб страшная праўда пра Хатынь пачала пакрысе прасочвацца ў друк. Чаму "пакрысе"? Ды хаця б таму, што працэс над Васюрам хоць і быў адкрытым, далёка не ўсіх пускалі ў залу пасяджэнняў ваеннага трыбунала. Журналістаў таксама "сартыравалі". Тагачасны загадчык ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ Паўлаў сам вырашаў, каго пускаць, а ккаго не. Зрэшты, тады аб працэсе над адным з галоўных палачоў Хатыні ў друку так і не з'явілася ні радка. Каб матэрыялы пра Хатынь не былі апублікаванымі, нямала пастараліся лідэры двух рэспублік - Беларусі і Украіны. Асабліва настойліва пярэчыў гэтаму былы член Палітбюро ЦК КПСС Шчарбіцкі. Ён ведаў, што118-ы паліцэйскі батальён быў сфарміраваны ў Кіеве, а Васюра па нацыянальнасці - украінец, як і многія іншыя злачынцы.

Але час мяняўся, мяняліся нашы кіраўнікі, і сёння шырокаму чытачу становяцца вядомымі многія факты гісторыі, пра якія яшчэ нават некалькі гадоў назад гаварыць было немагчыма.

Што тычыцца трагедыі Хатыні, то пачалося ўсё раніцай 22 сакавіка 1943 года, калі ў гэтай вёсцы пабывала мсаленькая група партызан - чалавек пяць-шэсць. Паснедаўшы ў Хатыні, партызаны без згоды сваго камандавання зрабілі вылазку на шашы Лагойск-Плешчаніцы. Насупраць вёскі Казыры група пашкодзіла лінію сувязі.

У Лагойску кватараваў нямецкі карны батальён "Чорная смерць". А ў Плешчаніцах знаходзіўся 118-ы паліцэйскі батальён. Сувязь паміж імі перарвалася. На лінію з Лагойска выехала група сувязістаў.

У тую ж раніцу ў Менск з Плешчаніц выехалі легкавушка і грузавік. У адпачынак ехаў гаўптман Ханс Вельке. Фігура гэта была незвычайная, яна акзала прамы ўплыў на трагедыю Хатыні. Справа ў тым, што Ханс Вельке быў алімпійскім чэмпіёнам 1936 года па штурханню ядра, ён стаў першым немцам, які перамог у гэтым прэстыжным відзе атлетыкі.

Калі пачалася вайна, алімпійскі чэмпіён на Усходні фронт, вядома, не трапіў. Жалезныя крыжы ён зарабіў у тыле. Апошняя яго пасада - шэф роты 118-га паліцэйскага батальёна.

Дык вось, партызаны чакалі ў засадзе сувязістаў, а на шашы ў гэты час з'явілася легкавушка ў суправаджэнні грузавіка. Першымі ж стрэламі Вельке быў забіты. Быў ранены і Мялешка, тагачасны ротны пры ўплывовым "шэфе". Напад быў нечаканы. Абстраляўшы машыну, партызаны тут жа зніклі ў лесе. А ў гэты момант да месца

засады падаспелі сувязісты, пасланыя з Лагойска. Наладзіўшы сувязь, яны паведамілі ў Лагойск пра забойства Вельке. 118-ы батальён у поўным складзе накіраваўся ў вёску Казыры. Крыху пазней накіравалася ў дарогу і каманда з батальёна "Чорная смерць". Непадалёк ад Казыроў

сяляне валілі лес уздоўж шашы. Карнікі акружылі іх і паслалі ў Плешчаніцы. Прайшлі няшмат, з Плешчаніц падаспеў паліцэйскі батальён. Убачыўшы паліцаяў, пра зверствы якіх сяляне ведалі вельмі добра, яны кінуліся ў лес. І тады Васюра загадаў страляць па людзях, каб ніхто не застаўся ў жывых. Паліцаі расстралялі 27 чалавек, раненых дабівалі на месцы.

Затым, дабраўшыся да месца засады, паліцаі знайшлі страляныя гільзы і сляды партызанаў, якія і прывялі іх у Хатынь. У поўдзень вёска была акружана. Распараджаўся ўсім Васюра. Гэта ён загадаў сагнаць жыхароў Хатыні ў свіран, закрыць і падпаліць. Калі свіран запалаў, людзі сарвалі вароты і паспрабавалі вырвацца з агню. І тады кулямётчык Катрук (ён, дарэчы, і сёння спакойна жыве ў Канадзе) ударыў доўгай прыцэльнай чаргой. Страляў і Васюра. Адзіны, хто вырваўся з вогненнага свірна, -- Віктар Жалабковіч. Выратавала яго маці. Калі па людзях ударыў кулямёт, яна прыкрыла сына сваім целам. Тады ў жывых яшчэ засталіся Аляксандр Жалабковіч, які на кані змог праскочыць праз кальцо паліцаяў, Уладзімір Яскевіч - ён схаваўся ў лесе, ды яшчэ дзве дзяўчынкі. Але і адна і другая загінулі праз год ад рук карнікаў у другой вёсцы.

Дарэчы, немцы ў вёсцы былі з самага пачатку аперацыі. Так што аб іх невінаватасці гаварыць не трэба. Але, паўторымся, Хатынь разам з яе жыхарамі спалена паліцаямі, а галоўны "рэжысёр" трагедыі - Васюра. Пасля суда ваеннага трыбунала ён быў расстраляны, але, на жаль, яго смерцю жыцці мірных жыхароў не вернеш.

*Вячаслаў Адамчык*
*"Бярозка"*

# ВІЛЕНСКІ ПЭДАГАГІЧНЫ УНІВЭРСЫТЭТ

**па конкурсу атэстатаў набірае студэнтаў**
**на 1 курс факультэту славістыкі па спэцыяльнасцях:**

**--беларуская мова і журналістыка**
**--беларуская і расейская мова і літаратура**
**--беларуская мова і літаратура і гісторыя культуры**
**--беларуская мова і мэтодыка пачатковага навучаньня**

**Навучаньне платнае.**
**Форма навучаньня: завочнае (5 г.)**
**Прыём дакумэнтаў - да 1.09.98 г.**

**1.Атэстат (копія) альбо дыплём вышэйшай школы (выпіска).**
**2.Мэдыцынска даведка.**
**3.4 фотакарткі (3*4).**
**4.Выпіска з працоўнай кніжкі (калі ёсьць).**

*Дакумэнты можна выслаць на адрас:*
*Baltarusių kalbos, literaturos bei etnokulturos katedra*
*Vilniaus pedagoginis universitas*
*Student g. 39-527*
*2034 Vilnius*
*LIETUVA*
*Тэл.: 72-58-01, 73-18-41*
*Тэл. у Баранавічах -8-01634-70503*

1. Дакумэнты прымаюцца асабіста ці праз пошту на адрас унівэрсытэту. Пры перасылцы праз пошту далучаецца заява на імя рэктара ў свабоднай форме з указаньнем спэцыяльнасьці і зьвестак пра сябе.
2. 10$ за рэгістрацыю дакумэнтаў і афармленьне візы ўносіцца асабіста пры падачы дакумэнтаў альбо пасьля прыезду на вучобу (калі дакумэнты перасланыя праз пошту).
3. Разам з выклікам на вучобу даецца інфармацыя адносна візы, жыльля, аплаты і г.д.
4. Віза пад час вучобы бясплатная.
5. Інтэрнат даецца пры наяўнасьці месцаў і аплочваецца студэнтам.
6. Аплата за вучобу пераводзіцца пасьля залічэньня праз банк, паштовым пераводам ці асабіста ў касу унівэрсытэту па прыезьдзе на сэсію. Тады х падпісваецца дамова паміж студэнтам і рэктарам ВПУ.
7. Дыплём на тэрыторыі Беларусі мае юрыдычную сілу.
8. 1$ ЗША=4 літы.

# БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

## Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965

### Конкурс для школьнікаў

Архіў Найноўшай Гісторыі (пры Беларускім Гуманітарным Фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства беларускай Мовы імя Ф.Скарыны абвяшчае конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965"

Мы хочам зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці блізкага для нас часу - мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта... Мы хочам заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстання метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі.

У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў: школ (пачынаючы з сёмага класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная. Гэта можа быць сачыненне альбо эсэ, калаж з фатаздымкаў, ці нават фільм, інтэрв'ю і г.д. Галоўнае, праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставых формаў да працы павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання і збору інфармацыі.

Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніцаў могуць падавацца ў арыгінале.

Праца можа быць падрыхтавана як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і г. д. Да працы павінна быць абавязкова далучана метрычка.

Працу трэба даслаць у адным асобніку да 15 лістапада (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: 220123, Мінск, а/с 71

Вынікі конкурса бадзець абвешчаныя 15 снежня 1998 года. Пераможцаў чакаюць прызы. Галоўны прыз - кампутар.

Усю патрэбную інфармацыю і парады можна атрымаць ад рэгіянальнага каардынатара конкурса сп.Міхася Гіля (тэл. 2-17-84), альбо ў сакратара конкурса сп. Ірыны Коваль па тэл. (0172) 77-46-25 з 2-00 да 8-00 і з 22-00 да 23-00. Умовы конкурсу ўжо друкаваліся ў газеце "Наша Ніва" (№10 за 1 чэрвеня 1998)

**Жадаем поспехаў!**

## ТОЛЬКІ ГАРЭЛКА - ТАВАР ХАДАВЫ

Па два, а то і нават тры дні не бывае ў продажы свежага хлеба, булак, не гаворачы ўжо пра каўбасныя вырабы, мясапрадукты ў магазіне вёскі Багданова Сененскага раёна. Даўно знік з прылаўку тут і цукар. Мясцовыя прадаўцы "вызначыліся" хіба тым, што за гандаль заляжалымі таварамі ўплацілі нядаўна штрафы ў памеры 500 тысяч рублёў. Адзіным таварам у гэтым і большасці іншых крамаў на вёсцы, які рэгулярна прысутнічае на прылаўку была і застаецца гарэлка і віно. Мала чым адрозніваецца сітуацыя і ў горадзе.

Па- ранейшаму ўсюды насельніцтва вялікую частку грошай аддае на набыццё алкагольных напіткаў. Згодна дадзеных абласнога кіравання статыстыкі за 1997 год моцныя напоі ў агульным аб'ёме групы харчовых тавараў па прадажах апярэдзілі ўсіх астатніх і склалі 22 працэнты тавараздвароту. На Віцебшчыне ў сярэднім на кожнага жыхара вобласці па 27 бутэлек віна, 23 - піва і больш чым па скрыні гарэлкі прадалі 4 тысячы магазінаў і больш за тысячу кафэ, бараў і рэстаранаў. У сваю чаргу кожны жыхар здолеў за год спажыць толькі 12,6 кг мяса, крыху больш 7 кг мукі і 3,4 кг масла. Дрэнна гэта ці добра, хай вырашыць для сябе кожны.

*Уладзімір ШЫК.*

# Вінцук Адважны



Вінцук Адважны (Язэп Германовіч) нарадзіўся 4 сакавіка 1890 г. ў Гальшанах. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1913). Служыў ксяндзом на Дзісеншчыне і Слонімшчыне. Пераследаваўся польскімі ўладамі за беларускія настроі. Змушаны быў выехаць у Харбін. У 1948 годзе быў арыштаваны кітайскай міліцыяй і перададзены савецкім уладам. Быў асуджаны на 25 гадоў прымусовых работ у папраўча-працоўных лагерах. Праз сем гадоў быў выпушчаны за мяжу. Жыў у Італіі, Англіі. Памёр 26 снежня 1978 г.

Друкавацца пачаў у 1922 г. Напісаў і выдаў кнігі: "Як Казюк сабраўся да споведзі" (1928), "Казюкова жанімства" (1929), "Як Гануля збіралася ў Аргентыну" (1930), "Адам і Анэлька" (1931), "Кітай - Сібір - Масква" (1962), "Байкі" (1973) і інш.

### ЗЯЗЮЛЬКА

*Спяваюць птушачкі прыгожа,*
*Зязюлька шчасцне нам варожа:*
*—Ку-ку, ку-ку!*

*Каму на шчасце, на руку,*
*Каму на гора, на бяду:*
*—Ці скора замуж я пайду?*
*— Мець грошы буду я ці не?*
*—А жыць ці доўга мне?*

*— Калі ж то будзе? (Божа, дай!)*
*Наш вольны край?*

*Зязюлька скажа, будзь гатоў!*
*"За столькі-гэтулькі гадоў..."*
*****
*Мо хто разумны тут рассудзе,*
*Ці шчасце нам без працы будзе?*

*1931г.*



### РАСКЛАД РУХУ ЦЯГНІКОЎ

| № | Накірунак | Прыбыццё | Стаянка | Адыход |
|---|---|---|---|---|
| 6666 | Крулеўшчына – Паставы | 12.56. | — | — |
| 6664 | Паставы – Крулеўшчына | — | — | 13.16. |
| 6665 | Крулеўшчына — Лынтупы | 19.17. | 3 | 19.20. |
| 6662 | Лынтупы – Крулеўшчына | 8.17. | 5 | 8.22. |
| 689 | Віцебск – Лынтупы | 5.00. | 5 | 5.05. |
| 690 | Лынтупы — Віцебск | 22.57. | 6 | 23.03 |


**Заснавальнік і рэдактар Міхась ГІЛЬ**

Адрас рэдакцыі:211840, г.Паставы вул.Бальнічная, 11. Тэл. (02155) 2-17-84.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі.

Распаўсюджваецца бясплатна на правах рукапісу.
Наклад 299 асобнікаў.
Замова № 124. Друк СПБ.